ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№50 (2504)

12 снежня 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1 000 рублёў.

## СЦЕЖКАМІ ЦЁТКІ (Алаізы ПАШКЕВІЧ)




**Помнік слыннай беларускай паэтэсе ў Шчучыне.**

*(Працяг фотарэпартажу на 8-й стар.).*

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*БЫЦЬ ШЧАСЛІВАЙ У АЎСТРЫІ*

# У ЗГОДЗЕ З САБОЮ І МАСТАЦТВАМ

**Зоя Літвінава — адна з нямногіх беларускіх мастакоў, хто дабіўся поспехаў на Захадзе. Цяпер прыкладна палавіну свайго жыцця яна праводзіць у Аўстрыі, дзе яе работы карыстаюцца несумненным поспехам, а яна сама жыве ў горным Тыролі ў згодзе з сабою і мастацтвам. Не ведаючы аб гэтай акалічнасці, я доўга збіралася сустрэцца з мастачкай. Мне пашанцавала: сустрэча адбылася за дзень да яе чарговага ад'езду з Мінска.**



— *Якім вам здаўся горад пасля расстання з ім?*

— Я люблю Мінск, і ў той жа час мне тут дрэнна працуецца, атмасфера, асабліва цяпер, вельмі цяжкая. На тварах людзей адбіваецца нейкі цяжар, страшная пячатка заклапочанасці і смутку. І я пачынаю адчуваць, як на маім твары праступае такі ж выраз. А працаваць я магу толькі тады, калі я шчаслівая.

— *Якія людзі, на ваш погляд, робяць мастацтва — шчаслівыя ці няшчасныя?*

— Гэта індывідуальна, але я лічу, што шчаслівыя. У мяне атрымліваецца толькі тады, калі мне добра, калі ў мяне многа станоўчых эмоцый, калі я закаханая. На Захадзе я адчуваю сябе ў бяспецы, там пачынае працаваць фантазія, я шчаслівая і многа пішу. Я раней злавалася, калі мне гаварылі, што мастак — гэта сацыяльная з'ява. Мне здавалася, што, закрыўшыся ў сваёй майстэрні, можна адгарадзіцца ад усяго свету. Уласна, раней гэта мяне і ратавала. Цяпер не атрымліваецца...

— *Вам у жыцці больш перашкаджалі ці дапамагалі?*

— Вядома, перашкаджалі. Я заўсёды лічыла, што мастак павінен рабіць тое, што яму дарога, блізка і цікава, і задачы, якія ён ставіць перад сабой, павінны быць вышэйшыя і глыбейшыя за імгненнае і кан'юктурнае. З такімі прынцыпамі раней можна было памерці ад голаду. Ратавала мяне толькі тое, што па адукацыі я — манументаліст, іншы раз выконвала вялікія заказы, і гэта давала мне магчымасць жыць. Мяне вельмі падтрымлівала Масква, там ахвотна куплялі мае работы. Думаю, што гэта дапамагло мне захаваць душу, не халтурыць, працягваць развівацца. У васьмідзесятыя гады я прыйшла да нейкага асаблівага стану душы, зразумела, што трэба пазбаўляцца ад грубай матэрыяльнасці і варварскіх чорна-карычневых колераў, уласцівых нашаму жывапісу. Аднойчы нашы мастакі былі прадстаўлены ў Аўстрыі, і іх работы не мелі там поспеху. Я не магла зразумець, чаму, сярод іх жа былі і вельмі таленавітыя. А потым мае сябры ў Аўстрыі растлумачылі, што гледачоў палохаў наш змрочны, манахромны чорна-карычневы жывапіс, ён мімаволі прыгнятае гледача.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ЧАС І ЛЁС

# КРЫЖОВЫ ШЛЯХ АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

*"Ужо аддаўна ведама, што аб кожнай дзяржаве трэба судзіць... паводле таго, якое месца ў гэтай дзяржаве займае чалавек і як у ёй паважаецца чалавечая годнасць".*

**А. Калубовіч. "На крыжовай дарозе". Клыўлэнд, ЗША, 1986 г.**

Толькі апошнімі гадамі ў нашу гісторыю і культуру пачалося вяртанне асоб з лёсам складаным, неардынарным, супярэчлівым, якія ў тагачаснай рэчаіснасці па розных прычынах сталіся іншадумцамі, аказаліся ў апазіцыі да савецкай таталітарнай сістэмы, сталі на антыбальшавіцкіх пазіцыях, а таму аб'яўляліся "ворагамі народа", выкрэсліваліся з гісторыі і памяці сучаснікаў, а потым і нашчадкаў. Толькі цяпер, калі навукоўцы асвойваюць новыя, раней закрытыя архіўныя пласты дакументаў, асэнсоўваюць тэмы забароненыя ці тыя, якія дазваляліся падаваць толькі ў негатыўным плане, раскрываецца жахлівая карціна бязмежнага насілля над асобай, абсалютнай безабароннасці чалавека ў таталітарнай дзяржаве, высвятляюцца метады і сродкі, якімі ламалі лёсы дзесяткаў, соцень тысяч людзей, вымушалі іх у абставінах свайго часу на ўчынкі, якія нам цяпер (у іншых жыццёвых рэаліях) здаюцца незразумелымі ці непрымальнымі.

Да нядаўняга часу няшмат што было вядома на бацькаўшчыне і пра Аўгена Калубовіча, беларускага літаратара, гісторыка, публіцыста, палітычнага і грамадскага дзеяча, большая частка жыцця якога прайшла ў эміграцыі. Творы Калубовіча, як і ўвогуле працы эмігрантаў-навукоўцаў, літаратараў, іншых творцаў, не прапускаліся ў рэспубліку ці ў ліку забароненай для шырокага чытача літаратуры знаходзіліся ў спецсховішчах БССР. Толькі адзінкі выдадзеных у 80-я гады беларусамі ў Польшчы нелегальна ("Самвыдатам") прац Калубовіча — "Айцы БССР і іхны лёс", "Акт 25 сакавіка й адраджэньне нацыянальнай беларускай культуры" трапілі на бацькаўшчыну. Больш шырокаму азнаямленню з літаратурнай і навуковай спадчынай Калубовіча паспрыяла выданне зборнікаў яго эміграцыйных твораў "Крокі гісторыі" (Беласток — Вільня — Менск, 1993), "На крыжовай дарозе" (Менск, 1994).

Неадназначнага роздуму пра лёс Калубовіча прыбавілі не так даўно абнародаваныя ў друку звесткі: "Звязда" ад 26 чэрвеня змясціла артыкул Янкі Казекі "Масцўў дарогу ў Курапаты", у якім Калубовіч апазнаецца аўтарам як агент НКУС па мянушцы "Палонскі". Сакрэтныя матэрыялы НКУС БССР, выяўленыя гісторыкам Расціславам Платонавым у Нацыянальным архіве і надрукаваныя ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" (5 красавіка 1996 года) сведчаць, што паводле агентурных матэрыялаў "Палонскага" летам 1938 года была заведзена і распрацоўвалася справа пад назвай "Арганізатары". Па ёй праходзілі як актыўныя ўдзельнікі антысавецкай групы Пімен Панчанка, Алесь Бачыла, Рыгор Няхай, Іван Грамовіч, Уладзімір Кандраценя, Янка Казека. Як вынікае з апублікаваных дакументаў на падставе звестак "Палонскага", у дакладной запісцы народнага камісара ўнутраных спраў БССР Л. Цанавы да сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі (датаванай лютым 1939 года) былі сфармуляваны абвінавачванні іх у контррэвалюцыйнай дзейнасці, рэзкім незадавальненні мерапрыемствамі ВКП(б) і Савецкага ўрада, антысавецкай агітацыі, ідэалізацыі фашысцкага ладу. "Якімі ж пакручастымі сцежкамі часам ідзе чалавек, — разважае Янка Казека. — Сам Калубовіч, абвінавачаны ў нацыяналізме, тры гады правёў у турме і лагерах. ...Тады, відаць, і стаў "Палонскім", бо змог пасля заканчэння тэрміну вярнуцца на Беларусь". Можа разумение таго, чаму гэтыя сцежкі ў 30-я гады аказаліся такімі пакручастымі, дасць магчымасць больш дакладна патлумачыць, вызначыць рашэнні, учынкі,

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ЛІСАБОНСКАЯ СУСТРЭЧА



2—3 снежня ў сталіцы Партугаліі — Лісабоне праходзіла сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў 54 краін-удзельніц Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. У ёй прыняла ўдзел і афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

НА ЗДЫМКУ: у час выступлення Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ на сустрэчы на вышэйшым узроўні Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

"Па нашаму перакананню, у XXI стагоддзі Еўропа ўвойдзе мірнай толькі ў тым выпадку, калі сістэма бяспекі будзе адпавядаць наступным крытэрыям:

Па-першае, яна павінна эфектыўна процістаяць як старым, так і новым пагрозам бяспецы. Я ў першую чаргу маю на ўвазе такія пагрозы, як рэгіянальныя канфлікты, тэрарызм, арганізаваная злачыннасць і інш.

Па-другое, еўрапейская бяспека павінна быць недзяльнай і забяспечваць справядлівы ўлік інтарэсаў усіх дзяржаў кантынента. Усе краіны Еўропы павінны не толькі фармальна, але і на справе мець роўныя правы пры прыняцці рашэнняў, якія закранаюць лёс кантынента.

Па-трэцяе, мы павінны выбраць такую мадэль бяспекі, якая б аб'ядноўвала народы, а не ствараля б пагрозу новага расколу кантынента.

Мы лічым, што сістэма, якая адпавядае гэтым крытэрыям, магла б скласціся на аснове Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ).

У яе рамках маглі б знайсці эфектыўнае прымяненне ўжо існуючыя структуры, у тым ліку і Арганізацыя Паўночнаатлантычнага Дагавора. Мы рэальна ацэньваем магчымасці гэтай структуры па падтрыманню міру. Удзельнічаючы ў праграме "Партнёрства дзеля міру", мы гатовы і надалей супрацоўнічаць з НАТО ў пытаннях забеспячэння міру.

Але мы лічым недальнабачным рабіць НАТО галоўным звяном сістэмы еўрапейскай бяспекі.

Тая мадэль еўрапейскай бяспекі, сарцавіну якой састаўляла б НАТО, першапачаткова, па сваёй прыродзе не зможа забяспечыць роўны ўлік інтарэсаў усіх дзяржаў Еўропы.

Што б мы цяпер ні гаварылі, краіны кантынента былі б падзелены на дзве няроўныя і нераўнапраўныя групы: члены НАТО і дзяржавы, якія не ўваходзяць у гэты блок.

"Халодная вайна" скончылася. Сёння няма Варшаўскага Дагавора і Савецкага Саюза, якія процістаяць блоку НАТО. На Усходзе кантынента няма ніводнай дзяржавы, ад якой можа зыходзіць пагроза агрэсіі.

У гэтых умовах трэба зрабіць усё, каб пазбегнуць крокаў, здольных выклікаць новы раскол Еўропы, пасеяць узаемны недавер і падазронасць.

Мы гаворым аб гэтым, магчыма, гучней за іншых таму, што найбольш пацярпеўшай у выніку новага расколу Еўропы была б Беларусь, па межах якой прайшла б лінія новага разлому. Менавіта таму ў нас асабліва глыбокі неспакой выклікаюць планы хуткага пашырэння НАТО на Усход.

Важна, аднак, мець на ўвазе, што ў гэтым выпадку ўвогуле не будзе пераможцаў. Сістэма бяспекі, заснаваная на дамінаванні пэўнай групы краін, не можа быць моцнай і даўгавечнай.

У святле гэтага сістэма агульнаеўрапейскай бяспекі, касцяк якой складае АБСЕ, уяўляецца нам найбольш аптымальнай. Мы лічым, што ўжо сёння АБСЕ магла б узяць на сябе ролю каардынатара еўрапейскіх і еўраатлантычных інстытутаў у справе забеспячэння міру і стабільнасці на кантыненце.

Мая маладая краіна не толькі на словах, але і на справе зрабіла і робіць рэальныя і вельмі значныя крокі, якія садзейнічаюць забеспячэнню бяспекі кантынента.

Паводле Дагавора аб звычайных узбраеннях Беларусь знішчыла больш танкаў, баявых машын і іншай ваеннай тэхнікі, чым Вялікабрытанія, Францыя і ЗША, разам узятыя. Хачу падкрэсліць, што гэта была тэхніка, атрыманая ў спадчыну з часоў "халоднай вайны".

Беларусь першая добраахвотна і без усялякіх умоў і таргоў адмовілася быць уласніцай размешчанага на яе тэрыторыі вялікага ядзернага патэнцыялу.

Мы выступілі з ініцыятывай фарміравання на кантыненце бяз'ядзернай прасторы і зрабілі практычныя крокі па рэалізацыі гэтай ідэі: датэрмінова выканаўшы свае абавязацельствы па пратаколу, падпісанаму тут, у Лісабоне, у маі 1992 года, Беларусь днямі закончыла вывад са сваёй тэрыторыі апошняй ядзернай ракеты!

Але пазіцыю, якую занялі па гэтаму пытанню многія нашы замежныя партнёры, цяжка назваць адэкватнай.

З аднаго боку, яны вітаюць вывад з Беларусі ядзерных ракет, а з другога — не выказваюць гатоўнасці ўзяць на сябе абавязацельства не размяшчаць на сваёй тэрыторыі ядзернай зброі.

Гледзячы на ўсё гэта, я часам думаю, што мы хутчэй за многіх пазбавіліся стэрэатыпаў "халоднай вайны". Я заклікаю вас непрадузята паглядзець на праблему і падтрымаць ідэю стварэння бяз'ядзернай прасторы".

*(З выступлення Прэзідэнта Беларусі А. ЛУКАШЭНКІ на сустрэчы на вышэйшым узроўні Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ) у Лісабоне 2 снежня 1996 года).*

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## НОВЫЯ ЗАКАНАДАЎЦЫ

Першы склад Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу сфарміраваны са 110 дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання. На нечарговай сесіі гэтага новага заканадаўчага органа была дадзена яксная характарыстыка яго складу. Было адзначана, што Палата прадстаўнікоў шматпартыйная. З-за таго, што шэраг дэпутатаў у перыяд палітычнага процістаяння памянялі сваю партыйную прыналежнасць, пакуль што абсалютна дакладных звестак па гэтаму пытанню няма. Разам з тым падлічана, што з Вярхоўнага Савета 13-га склікання ў склад Палаты прадстаўнікоў дэлегавана ад фракцыі "Згода" 52 чалавекі (47,3 працэнта), ад аграрыяў — 24 (21,8), ад камуністаў — 21 (19,2), ад сацыял-дэмакратычнай фракцыі "Саюз працы" — 6 (5,4), ад фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" - нівондага, незалежных дэпутатаў — 7 (6,4).

Тэрытарыяльна Палата прадстаўнікоў прадстаўлена наступным чынам: ад Брэсцкай вобласці — 20 дэпутатаў, або 18,2 працэнта, ад Віцебскай — 17 (15,4), ад Гомельскай і Мінскай — па 19 (17,3), ад Гродзенскай — 8 (7,3), Магілёўскай — 22 (20) і горада Мінска — 5 (4,5 працэнта).

Раней дэпутатамі Вярхоўнага Савета выбіраліся 13 чалавек, 99 працэнтаў маюць вышэйшую адукацыю, а 10 — вучоную ступень доктара або кандыдата навук. У складзе Палаты прадстаўнікоў — 5 жанчын (4,5 працэнта).

Ад 30 да 40 гадоў у новым заканадаўчым органе — 19 чалавек (17,3 працэнта), ад 40 да 50 — 58 (52,7), ад 50 да 60 — 31 (28,2), звыш 60 — 2 дэпутаты.

Па роду працоўнай дзейнасці ў складзе Палаты прадстаўнікоў работнікаў прамысловасці, будаўніцтва і іншых галін народнай гаспадаркі — 14,5 працэнта, работнікаў сельскай гаспадаркі — 13,6, аховы здароўя — 7,3, адукацыі — 5,4, праваахоўных органаў — 8,2, супрацоўнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта — 5,4, прадстаўнікоў Кабінета Міністраў — 1,8, мясцовых Саветаў і выканаўчых органаў улады — 14,5 працэнта, 23,6 працэнта дэпутатаў працавалі на прафесійнай аснове ў Вярхоўным Савеце 13-га склікання. Сярод дэпутатаў таксама прадстаўнікі камерцыйных структур, малых прадпрыемстваў, СМІ і спорту, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, старшыні калгасаў, дырэктары саўгасаў.

ДЗЕНЬ ПРЭСЫ



У Інтэграцыйным камітэце і Выканкоме Супольніцтва Беларусі і Расіі прайшоў Дзень прэсы Рэспублікі Беларусь. У выніку сустрэч беларускіх журналістаў з кіраўнікамі Інтэграцыйнага камітэта і Выканкома Супольніцтва быў падпісаны Пратакол аб узаемадзеянні паміж Дзяржкамітэтам па друку Рэспублікі Беларусь і вышэйназванымі арганізацыямі.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў Інтэграцыйным камітэце.

НА ГРАНІЦЫ

## АПЕРАЦЫЯ «РУБЕЖ-96»

На працягу 40 дзён на паўночна-заходніх межах Беларусі пагранічнікі правodзілі буйнамаштабную аперацыю "Рубеж-96". У ходзе яе былі затрыманы 426 парушальнікаў мяжы, а таксама адабрана кантрабанда на агульную суму 8,5 мільярда рублёў. Эканамічны эфект ад праведзенай аперацыі з улікам расходаў на дзейнасць пагранвойскаў перавысіў 7 мільярдаў рублёў. Характэрна, што ў гэты ж час "Рубеж-96" праводзіўся Федэральнай пагранічнай службай Расіі, якая на сваіх паўночна-заходніх граніцах затрымала 483 парушальнікаў, што ненамнога перавышае беларускі паказчык.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## ЗАЯВА В. ЦІХІНІ

Падаў у адстаўку старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Валерый Ціхіня. На прэс-канферэнцыі для журналістаў ён паведаміў, што сваё рашэнне матываваў тым, што не можа выконваць ускладзеныя на яго абавязкі ва ўмовах "прававога вандалізму", якім ён лічыць рэферэндум і яго вынікі. Разам з кіраўніком прашэнні аб адстаўцы падалі яшчэ тры канстытуцыйныя суддзі з сваіх пасад — Валерый Фадзееў, Міхаіл Пастухоў і Аляксандр Вашкевіч.

Заява В. Ціхіні і іншых суддзяў адрасавана Вярхоўнаму Савету, які, паводле Канстытуцыі ўзору 1994 года, з'яўляецца адзіным органам, што мае юрыдычнае права выбіраць і адхіляць членаў суда. І, на думку Ціхіні, зараз у краіне дзейнічае менавіта ранейшая Канстытуцыя без якіх-небудзь змяненняў, паколькі новая рэдакцыя Асноўнага Закона была прынята на рэферэндуме са шматлікімі парушэннямі заканадаўства, таму не можа быць легітымнай. Тым больш, што сам рэферэндум меў кансультатыўны характар.

АПОШНЯЯ РАКЕТА



27 лістапада ў Гродзенскай вобласці, каля вёскі Яцукі, завяршыўся вывад з тэрыторыі Беларусі ракет стратэгічнага прызначэння. Ракетны комплекс СС-25 (Тополь) адпраўлены ў Расію.

НА ЗДЫМКУ: у час вываду ракетнага комплексу.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ЛІДЭРЫ некалькіх палітычных партый Беларусі стварылі Беларускі камітэт абароны дэмакратыі. Старшынёй БКАД абраны былы спікер парламента Сямён Шарэцкі, яго намеснікамі — Аляксандр Дабравольскі, Юры Хадыка, Мікалай Статкевіч.

ВЫТВОРЧАЕ аб'яднанне БелВАР пачало выпуск ліццёвых дэталяў для аўтамабільных шклоачышчальнікаў па заказу брытанскай фірмы ІСД. Прадукцыя пастаўляецца ўжо на заводы аўтамабілебудаўнічых кампаній "Форд", "Опель". Канчатковая мэта — зборка шклоачышчальнікаў павінна поўнасцю выконвацца ў Беларусі.

У ПОЛАЦКУ пачаўся рух па новым мосце праз Заходнюю Дзвіну. Мост злучыў аэрапорт і мікраён Задзвінне. Па ім пойдуць аўтатранспарт і трамвай. Даўжыня моста — 277 метраў.

ЗНАК "Сусветная гарантыя якасці" прысуджаны ў Мадрыдзе вырабам Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода. Гэта ўжо другая ўзнагарода прадпрыемству. Нядаўна Брэсцкі лікёра-гарэлачны быў адзначаны "Залатой зоркай".

НЕЗВЫЧАЙНАЯ акцыя пратэсту адбылася на беларуска-польскай мяжы ля пераходу "Казловічы". Вадзіцелі вялікагрузных аўтамабіляў, якія днямі чакаюць у даўжэзных чэргах, правялі стыхійны мітынг. Яны пратэставалі супраць такой работы мытні, калі чэргі аўтатранспарту расцягваюцца на... 35 кіламетраў.

ДЛЯ АРМІІ ЗША выконваюць першы заказ на Бабруйскай футравай фабрыцы. Ужо пашыты і адпраўлены ў Амерыку дзве тысячы зімовых галаўных убораў. Чакаецца, што фірма паўторыць заказ і ў студзені новага года.

ЗГАРЭЛА Пінская цэнтральная раённая бібліятэка. Знішчаны амаль што цалкам кніжны фонд — больш за 50 тысяч кніг. Полымя прагпынула многія найбольш каштоўныя выданні, набыць якія сёння няма за што.

САПРАЎДНЫ арсенал "адкрыў" экскаватарщчык у Дрыбіне, раённым цэнтры Магілёўскай вобласці. На глыбіні болей за 1 метр былі знойдзены 273 адзінкі снарадаў, мін і гранат, якія захаваліся тут з часоў апошняй вайны.

РЭФОРМЫ

# СЛАНЫ, НА ЯКІХ ТРЫМАЕЦЦА БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА

**Як ужо вядома, на Беларусі плануецца чарговая рэформа агульнаадукацыйнай школы. Пра мэты і шляхі яе рэалізацыі размова з начальнікам Галоўнага ўпраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Беларусі Мікалаем ФЯСЬКОВЫМ.**

***— Мікалай Сцяпанавіч, якія ж прынцыповыя змены чакаюцца ў сістэме школьнага навучання!***

— Дазвольце спачатку невялікую прэамбулу. Многія лічаць: рэформа патрэбна толькі таму, што мы будуем новую нацыянальную школу. Так, сапраўды, у сувязі з гэтым узнікае шэраг праблем (напрыклад, у галіне беларусізацыі), якія неабходна вырашаць. Але вышэйназванае далёка не адзіная прычына маючых адбыцца перамен. Галоўнае, мабыць, у тым, што на пэўным этапе ўзровень адукацыйнай сістэмы (а яна з'яўляецца рэччу даволі кансерватыўнай) перастае задавальняць грамадства, якое няспынна рухаецца наперад. Ліквідаваць падобную супярэчнасць, у першую чаргу, і прызначана плануемая рэформа.

Я не хачу сказаць, што савецкая школа была дрэннай. Наадварот, у яе ёсць мноства выдатных дасягненняў, пра што, дарэчы, сведчаць шматлікія перамогі нашых навучэнцаў на разнастайных міжнародных алімпіядах і конкурсах — асабліва па прыродазнаўчых і матэматычных дысцыплінах, водгукі замежных экспертаў, якія правялі ў нас нямала семінараў з удзелам і пры падтрымцы ЮНЕСКА і Савета Еўропы. Але, як я ўжо казаў, жыццё не стаіць на месцы і нас кліча таксама не спыняцца.

Калі далей казаць пра асноўныя прычыны, што прадыктавалі пільную неабходнасць рэфармавання, неабходна згадаць такую важную акалічнасць, як моцная перагружанасць школьнікаў. Каб неяк палепшыць сітуацыю, вырашана павялічыць тэрмін навучання на год, адначасова скараціўшы штодзённую праграму і сам працоўны тыдзень.

Сёння ў сярэдняй адукацыі склалася наступная структура: першы-чацвёрты класы — пачатковая школа, дзевяцігодка — базавая і адзінаццаць класаў — поўная сярэдняя адукацыя. Дарэчы, павялічыць тэрмін навучання плануецца за кошт базавай школы, якая пераўтворыцца ў дзесяцігодку.

Для таго ж каб атрымаць права паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову, неабходна скончыць 11—12-ты класы — ліцэй ці прафесійна-тэхнічнае вучылішча або тэхнікум. Трэба адзначыць, у нас пакуль не плануецца, падобна заходнееўрапейскай сістэме, каб, скажам, ліцэісты аўтаматычна залічваліся ва універсітэты і інстытуты. Усе павінны здаваць уступныя экзамены.

***— Наколькі новая адукацыйная сістэма будзе стасавацца з агульнаеўрапейскімі стандартамі ў гэтай галіне!***

— Безумоўна, ажыццяўляючы школьную рэформу, краіна тым самым мае намер увайсці ў еўрапейскую адукацыйную прастору. Мы ўважліва вывучаем нямецкі, французскі вопыт, які вельмі блізкі да нашага. Так, усё станоўчае выкарыстоўваецца, але сляпога капіравання не будзе, мы не збіраемся адыходзіць ад карысных уласных напрацовак, назапашаных некалькімі пакаленнямі нашых педагогаў.

***— Што яшчэ адметнага прапануе рэформа!***

— Прадугледжваецца значная уніфікацыя базавай школы, як гэта, між іншым, атрымліваецца і сёння. Праўда, у 8—10-м класах ужо пачнецца некаторая дыферэнцыяцыя, у залежнасці ад магчымасцей і схільнасцей вучняў. А ў 11—12-м спецыялізацыя значна паглыбіцца.

Хачу яшчэ вярнуцца да размовы аб залішняй напружанасці нашага школьнага навучання і адзначыць: мяркуемая "разгрузка" павінна праводзіцца не за кошт спрашчэння зместу навучання, а шляхам выкарыстання больш сучасных навучальных тэхналогій.

Далей, яшчэ адна важная змена, што мае адбыцца, — агульная гуманізацыя школы, прычым не толькі таму, што павялічыцца ўдзельная вага гуманітарнага цыкла. Нашы падыходы ў гэтым пытанні значна шырэйшыя.

Раней, у савецкай школе, асаблівая ўвага надавалася прыродазнаўчым дысцыплінам і матэматыцы. Такой была палітыка дзяржавы, бо гаспадарка патрабавала спецыялістаў-"тэхнароў". Мы лічым, сёння гуманізацыя адукацыі павінна весціся праз гуманітарызацыю як сродак навучання. Гэта значыць, што матэматыка, фізіка, хімія ў роўнай ступені, як і літаратура, мастацтва, могуць вырашаць мэты гуманізацыі і адпаведна выхоўваць чалавека.

***— Але па-ранейшаму ў школе асноўнымі дысцыплінамі застануцца руская мова і матэматыка!***

— Вы так гаворыце, нібыта ў гэтым ёсць нейкае зло?

***— Не, канешне. Але ж вы кажаце: час вымагае перамен. Такім чынам, можа ўжо ўзнікла неабходнасць павялічыць колькасць сланоў, на якіх трымаецца наша сярэдняя адукацыя!***

— Навуковы калектыў, што працуе над новымі вучэбнымі планамі, усё ж такі імкнецца не рабіць рэзкіх змен у дачыненні суадносін паміж галінамі ведаў. Ранейшая схема нядрэнна сябе зарэкамендавала. Што датычыцца рускай мовы, яна ў нас з'яўляецца дзяржаўнай, і ў праграме ёй адведзена адпаведная колькасць гадзін.

***— Што можна ў гэтай сувязі сказаць пра беларускую мову, якое месца зойме яна!***

— У залежнасці ад тыпу школы. У беларускамоўнай — руская мова да беларускай у прапорцыі прыкладна два да трох, у рускамоўнай — болей рускай мовы і літаратуры.

***— Але ж апошнім часам колькасць рускамоўных школ расце, а беларускамоўных змяншаецца. Ці не атрымаецца ў такім выпадку, што беларуская мова зноў апынецца ў загоне!***

— Вось тут я не згодны. У вашым пытанні назіраецца пэўны палітычны, ідэалагічны падтэкст. Мы ж прытрымліваемся выключна рэкамендацый навукі і разглядаем мову не толькі як галіну ведаў, але і сродак навучання. Колькасць урокаў беларускай мовы не зменшыцца, дарма вы так лічыце. Больш таго, у краіне пакуль дзейнічае загад 1992-га года, у адпаведнасці з якім гісторыя, геаграфія, прадметы эстэтычнага цыкла вывучаюцца на беларускай мове незалежна ад таго, руская школа ці беларуская.

***— Ці будзе палепшана становішча з вывучэннем замежных моў, што, як высветлілася, з'яўляецца сапраўднай ахілесавай пятой усёй нашай адукацыі!***

— Так, праблема з замежнымі мовамі існуе, і яе трэба таксама выпраўляць. Думаю, удзельная вага англійскай, нямецкай, французскай моў у школьных раскладах значна не павялічыцца, але зменяцца самі мадэлі іх выкладання і вывучэння.

***— Мікалай Сцяпанавіч, пры распрацоўцы новай сістэмы ўлічвалася спецыфіка сельскай школы!***

— Безумоўна, мы прыйшлі да высновы, што для сельскіх школ галоўным павінен зрабіцца агульнаадукацыйны фактар. Такое рашэнне дыктуюць тыя ўмовы і абставіны, што склаліся зараз на вёсцы. Самі палічыце, ці здолеем мы ў бліжэйшы час стварыць у кожным населеным пункце ліцэй? Не, канешне.

***— У такім выпадку, можа плануецца пры ліцэях адкрываць нешта накшталт пансіянатаў для навучэнцаў, якія вымушаны прыязджаць аднекуль!***

— Магчыма, калі-небудзь так і будзе. Варыянт, канешне, ідэальны. Але, на жаль, у сённяшніх эканамічных умовах пакуль для нас нерэальны. Хутчэй, мы спачатку паспрабуем арганізаваць штодзённую дастаўку дзяцей у такія школы.

***— Ці адводзіцца ў новай школьнай праграме месца рэлігіі!***

— У вучэбным плане такога прадмета няма і не плануецца. Іншая справа, у некаторых навучальных установах за кошт школьнага кампанента выкладаецца рэлігіязнаўства.

Ведаю, зараз ёсць прапановы ўнесці ў адпаведныя законы такія змены, што дало б школе права ўводзіць у праграмы розныя рэлігіязнаўчыя дысцыпліны, але не саму рэлігію. Асабіста я — супраць гэтага. Для падобнага навучання існуюць нядзельныя школы. Дзяржаўная сярэдняя школа павінна захоўваць свецкі характар.

***— Мікалай Сцяпанавіч, а ці не хвалююць вас праблемы з выкладаннем гісторыі, у прыватнасці, беларускай!***

— Я не бачу тут асаблівых складанасцей. Зараз рыхтуецца другое пакаленне падручнікаў.

***— Сам змест якіх мяняецца...***

— Так, мяняецца. Але, я так разумею, вы маеце на ўвазе вяртанне зместу старых падручнікаў. Гэта даволі тэндэнцыйны погляд. У тым ліку і некаторых нашых замежных апанентаў. Але такі падыход — няправільны. Мы лічым, у падручніку павінны змяшчацца гістарычныя факты, якія ў аднолькавай меры маглі б трактавацца ўжо і адным бокам, і другім. Створана дзяржаўная камісія, якая да гэтых пытанняў падыходзіць вельмі скрупулёзна. Бывае, ужыванне аднаго тэрміна абмяркоўваецца месяцамі, толькі, каб усё адпавядала гістарычнай рэчаіснасці. Гісторыі, іншым дысцыплінам грамадазнаўчага цыкла надаецца першаступеннае значэнне.

Увогуле, цалкам уся канцэпцыя рэфармавання школы ўжо падрыхтавана і зацверджана Кабінетам Міністраў. А 21 жніўня ўведзена праграма паступовай яе рэалізацыі. Першы этап (1997/98 гады) — падрыхтоўчы, на другім, пачынаючы з 1 верасня 1998 года, на базе 15 агульнаадукацыйных школ у розных рэгіёнах краіны пачнецца эксперыментальнае апрабіраванне новай сістэмы адукацыі. Усё плануецца ажыццявіць за даволі працяглы перыяд, што дазволіць выявіць магчымыя недапрацоўкі ці памылкі. Акрамя таго, вельмі спадзяёмся, тады ўжо палепшыцца эканамічная сітуацыя ў краіне, што дазволіць нармальна фінансаваць не толькі мерапрыемствы, звязаныя з рэформай, але і ўвогуле ўсю сістэму адукацыі, без чаго поспех немагчымы.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

ПРАГНОЗЫ

# ДОЛАРАВАЯ ЛІХАМАНКА

Адна з прыкмет часу — "доларавая ліхаманка". Скача курс, растуць чэргі каля пунктаў абмену валют. Ходзяць таксама ўпартыя чуткі аб тым, што з Новага года адзін амерыканскі "зялёны" дойдзе да адзнакі 40 000 беларускіх "зайчыкаў". Наколькі гэтыя чуткі апраўданыя? Давайце звернемся да фактаў.

У апошнія паўгода эканамічная сітуацыя ў Беларусі характарызуецца наступнымі паказчыкамі:

— узровень інфляцыі ў рэспубліцы, па афіцыйных даных, складае 2,6—3,8 працэнта ў месяц, аднак незалежныя эксперты лічаць, што рэальны ўзровень набліжаецца амаль да 10 працэнтаў. Рост цэн і рост курсу амерыканскага долара на пазабіржавым рынку гэта пацвярджае. Выкананне бюджэту краіны — асноўны закон нармальнага функцыянавання дзяржавы, да кастрычніка склала толькі 65 працэнтаў ад запланаванага. Гандлёвае сальда па-ранейшаму адмоўнае і складае каля 700 мільёнаў долараў у месяц. Расце знешняя запазычанасць рэспублікі, і ў першую чаргу Расіі, за энерганосьбіты: за газ — каля 557,17 мільёна долараў, за нафту — 9,77 мільёна долараў. Больш за 25 працэнтаў прамысловых прадпрыемстваў рэспублікі проста стратныя. 36 буйных прадпрыемстваў — фактычна банкруты;

— прыток замежных інвестыцый у Беларусь практычна спынены. Асобныя інвестыцыйныя праекты, якія ажыццяўляюцца ў рэспубліцы, носяць прыватны характар і ў маштабах краіны проста мізэрныя;

— нягледзячы на павелічэнне грашовай масы прыкладна на 3,9 трыльёна рублёў шляхам крэдытных эмісій, адміністрацыйнае ўмяшанне ў аб'ектыўныя эканамічныя працэсы прывяло да падзення даходнасці асноўных фінансавых інструментаў, росту курсу долара, абсалютна нелагічнага зніжэння стаўкі рэфінансавання да 35 працэнтаў;

— праграмы дапамогі па лініях МВФ-МБРР практычна поўнасцю згорнуты. Тлумачыцца гэта наступным:

— заканадаўства не садзейнічае прытоку зарубежных інвестыцый, а ў даны момант адбываецца масавы вываз капітала з рэспублікі нават рэзідэнтамі;

— высокае падаткаабкладанне;

— надзвычай марудныя тэмпы прыватызацыі;

— адміністрацыйнае рэгуляванне валютнага курсу і ўсёй эканомікі ў цэлым;

— нестабільнае палітычнае становішча.

Па прыцягненні інвестыцый Беларусь займае 142-е месца ў свеце. Развіццё вытворчасці падае, выпрацоўваецца неканкурэнтаздольная прадукцыя — на даны момант на складах рэспублікі знаходзіцца прамысловай прадукцыі прыкладна на 11 трыльёнаў рублёў. Па прагнозах міжнародных экспертаў, спад у эканоміцы ў 1997 годзе будзе працягвацца. Праграма па выхаду з крызісу і развіццю да 2000 года прызнана экспертамі МВФ і МБРР нерэальнай і невыканальнай.

Зразумела, ва ўзнікшай сітуацыі гаварыць аб эканамічнай стабільнасці даводзіцца з вялікай аглядкай. Мы ўжо былі сведкамі больш чым 100 працэнтаў росту курсу долара — можна сцвярджаць, што ў далейшым ад падобных падзей мы не застрахаваны. У любым выпадку курс долара з'яўляецца асноўным фактарам для санацыі буйных прамысловых прадпрыемстваў, якія ва ўмовах яго яўнай недаацэненасці нясуць страты ў першую чаргу. Зусім магчыма, што па чыста палітычных матывах рост курсу долара на сённяшні момант стрымліваецца. Эксперты сыходзяцца ў меркаванні, што курс 40 000 рублёў — лічба не вельмі рэальная. Рэзервы Нацыянальнага банка рэспублікі на сённяшні дзень амаль вычарпаны, і можна чакаць, што для іх папаўнення, а таксама для прадухілення і спынення вывазу капітала з рэспублікі ўрад вымушаны будзе пайсці на такі непапулярны крок — павышэнне курсу. Аднак спецыялісты мяркуюць, што наўрад ці ён будзе вышэйшы за 30 000 рублёў, ва ўсякім разе адразу пасля Новага года.

Не варта забываць, што гэта толькі прагнозы. Тым мы і адрозніваемся ад цывілізаваных краін, што ў нас палітычныя інтарэсы пераважаюць над эканамічнай мэтазгоднасцю. Так што — магчымы любыя варыянты.

**Сяргей АНОШКА.**

*("Аргументы і факты ў Беларусі").*

# КРЫЖОВЫ ШЛЯХ АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

крутыя зломы далейшага лёсу Калубовіча.

Нарадзіўся ён 5 сакавіка 1912 года ў мястэчку Ціхінічы, цяпер гэта Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці. Тут скончыў пачатковую школу, затым сямігодку ў Рэчыцы, а ў 1930 годзе — педтэхнікум у Бабчыне (Хойніцкі раён). У маі 1930 года, акурат напярэдадні выпуску, арыштаваны органамі НКУС БССР за прыналежнасць да нелегальнай беларускай арганізацыі альтруістаў, якая заклікала не падтрымліваць савецкую ўладу як "не народную, не беларускую", супраціўляцца гвалтоўнай калектывізацыі. Пазней ён успамінаў: "Рэальна мы ня ўзьнялі зброі супраць савецкае ўлады. Усё нашае "злачынства" — жаданьне змагацца за свабоду беларускага народу. Гвалт і тэрор, які мы бачылі вакол, штурхалі нас на гэта, натхнялі". (Аўген Калубовіч. "На крыжовай дарозе". С. 28). Справа альтруістаў была перададзена з ГПУ пры СНК БССР у Маскву. Несудовым органам — тройкай ГПУ пры СНК СССР — быў прыгавораны да трох гадоў канцэнтрацыйных лагераў асобага прызначэння па афіцыйнай фармулёўцы "за ўдзел у антысавецкай арганізацыі і антысавецкую агітацыю". Сутыкнуўшыся ў турме з жорсткасцю савецкай сістэмы, судовымі і несудовымі расправамі, Калубовіч так пісаў пазней пра ўражанне ад уласнага прысуду: "Майму недаўменьню ня было канца... Што за лёгіка? Нізашто — расстрэл. А за рэальную антысавецкую дзейнасць — 3 гады канцлагераў. Ці ня доказ гэта таго, што расстрэлы тыя — не вымярэньне кары за рэальныя злачыны, а ўрадавы тэрор для запалохваньня... Корзуну ж сьледчы так і сказаў: "Калі мы цябе расстраляем, усе твае аднасяльчане на другі дзень пабягуць у калгас. Зразумеў? Ня пойдуць, а бягом пабягуць, каб не спазьніцца" ("На крыжовай дарозе". С. 69).

Пакаранне адбыў на Паўночным Урале (Вішарскія лагеры) і Далёкім Усходзе (Дальлаг, Бамлаг), дзе прайшоў усе жахі лагернага існавання: голад, холад, нечалавечыя бытавыя ўмовы, знясільваючую рабскую працу, безабароннасць перад свавольствам адміністрацыі.

Вярнуўся Калубовіч у родныя мясціны вясной 1933 года і ўладкаваўся настаўнікам пачатковай школы, але ў красавіку 1934 года быў звольнены. У сваіх успамінах ён сцвярджае, што толькі дзякуючы хадайніцтву дырэктара саўгаса (тут працаваў бацька Калубовіча), старога камуніста, паліткатаржаніна Юрачкі да старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова і спрыянню апошняга, пачаў працаваць з восені 1934 года ў Мінску настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, вучыцца ў падінстытуце. Цяпер, калі мы шмат што ведаем пра масавыя палітычныя рэпрэсіі 30-х гадоў, можна не сумнявацца, што Калубовіч пасля адбыцця зняволення быў пад пільным наглядам органаў НКУС. Ці мог ён стаць агентам пад іх ціскам, у атмасферы недаверу, падазронасці, страху, ганьбавання і вынішчэння ўсяго нацыянальна адметнага і яго носьбітаў, апанентаў савецкай сістэмы ці яшчэ толькі патэнцыяльных яе непрыхільнікаў? Тагачасная рэчаіснасць дае падставы для станоўчага адказу. А што ціск быў, то гэта несумненна. Камісія, якая ў 1936—1938 гадах праводзіла атэстацыю настаўнікаў, дала Калубовічу адмоўную характарыстыку. У тых умовах гэта было жорсткім папярэджаннем, а можа і тым прымусам, што мог штурхнуць яго на цяжкі крок і заўсёдную муку сумлення. Толькі КДБ Беларусі можа афіцыйна пацвердзіць ці абвергнуць гэты факт жыцця Калубовіча.

Пасля заканчэння педінстытута ў 1939 годзе ён займаў пасаду кансультанта-метадыста па беларускай мове ў Народным камісарыяце асветы БССР. У гэтай якасці ўваходзіў у правапісную камісію, створаную ў 1940 годзе пастановай СНК БССР дзеля разгляду праблемы захавання асаблівасцей беларускай мовы, якая ўзнікла, па словах Калубовіча, пасля "русіфікацыйнай рэформы правапісу 1933 г., выклікаючы ў практыцы друку і пісьма штораз большы разнабой, супярэчлівасьці і канфлікты". "Рух за выпраўленне беларускага правапісу і за чысціню мовы ніколі не сціхаў ад часу правапіснае рэформы 1933 г., — успамінаў Калубовіч. — Праўда, быў ён мо заціхі, нясмелы. Паўсюдна выяўляўся болей у прыватных гутарках. Але скаргі, нараканні і галасы крытыкі часам узнімаліся на настаўніцкіх сходах, у кабінетах навуковых інстытутаў ці ў фельетонах газеты "Літаратура і мастацтва". Цяпер, у новых, больш спрыяльных акалічнасцях рух гэты пасмялеў і ледзь не выліўся ў бунт" ("На суд гісторыі". Мінск. 1994. С. 112). Да новых абставін ён адносіў уваходжанне Заходняй Беларусі ў БССР: "Вызвольная прапаганда была ў самым разгары... Загадаць змоўкнуць, прыкрыкнуць, як гэта перад тым звычайна практыкавалася, у тых акалічнасцях, відаць, уважалася за немэтазгоднае. Зноў жа, праз Заходнюю Беларусь былі крышачку прыадчыненыя дзверы ў вольны свет, а ну ж пачуюць і там" ("На суд гісторыі". С. 107). Калубовіч падрыхтаваў і здаў у выдавецтва рукапіс падручніка для сярэдняй школы па беларускай літаратуры, але ён згубіўся ў першыя дні вайны.

На пачатку вайны з Германіяй Калубовіч быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, але ў Падмаскоўі трапіў у акружэнне і вярнуўся ў Беларусь. На акупаванай немцамі тэрыторыі ўваходзіў у склад беларускіх нацыянальных арганізацый, дазволеных немцамі. У прыватнасці, Беларускай рады даверу, якая існавала з чэрвеня 1943 года як дарадчы орган з прадстаўнікоў беларускай грамадскасці пры генеральным камісары Беларусі. Затым, калі на яе базе была ў снежні 1943 года створана Беларуская цэнтральная рада (БЦР) як галоўная інстанцыя беларускай адміністрацыі на акупаванай немцамі тэрыторыі, Калубовіч быў прызначаны яе сябрам, адказным за справы культуры. Пад псеўданімам А. Ясенскі друкаваўся па пытаннях нацыянальнай культуры ў беларускіх перыядычных выданнях, што выходзілі ў гады акупацыі. Узначальваў Беларускае культурнае згуртаванне, арганізаванае ў 1944 годзе. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што фармальна нямецкія ўлады перадалі БЦР кіраўніцтва школьнай справай, культурай, сацыяльнай апекай, Беларускай краёвай абаронай, але на практыцы ўсе гэтыя сферы былі пад іх жорсткім кантролем.

Калубовіч стаў удзельнікам Другога ўсебеларускага кангрэса (скліканага са згоды нямецкага кіраўніцтва 27 чэрвеня 1944 года), на якім выступіў з рэфератам "Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою й аб уневажненьні маскоўскага голасу ў беларускіх справах". На кангрэсе быў ужо абраны (а не прызначаны, як раней) у новы склад БЦР. Так, Калубовіч стаў на акупаванай тэрыторыі актыўным арганізатарам нацыянальна-культурнага жыцця, адным з лідэраў беларускага нацыянальнага руху, які меў антыбальшавіцкі, антысавецкі характар.

У гістарыяграфіі БССР беларускі нацыянальны рух у ваенныя гады падаваўся спрошчана, аднабакова, а яго прадстаўнікі безагаворачна абвяўляліся саўдзельнікамі злачынстваў акупантаў. Наша грамадскасць і цяпер не мае ўяўлення пра гэты рух як з'яву складаную, неадназначную ў кантэксце таго часу. Нават сярод навукоўцаў вельмі слаба прыжываецца асэнсаванне калабарацыі ў тым разуменні гэтага паняцця, як прынята ў многіх дзяржавах, што перажылі нямецкую акупацыю. Так, упершыню тэрмін "калабарацыя" ўжыты ў слоўніку Робертаса і абазначаў рух французаў, якія хацелі працаваць над адраджэннем Францыі пры супрацоўніцтве з немцамі. Ці многія з чытачоў ведаюць, што, зняверыўшыся ў савецкай сістэме, здольнасці яе павароту да дэмакратычнага развіцця, спрыяння нацыянальнаму жыццю і пасля таго, як Чырвоная Армія паспешліва адступіла з Беларусі, розныя беларускія палітычныя сілы на акупаванай тэрыторыі мелі надзею на падтрымку Германіі ў справе беларускай незалежнасці. Пры гэтым адна група рабіла стаўку на нацыянал-сацыялістычную партыю Германіі, другая — на супрацоўніцтва з цывільнай акупацыйнай уладай. Але існавала і беларускае нацыянальнае падполле, якое заняло не толькі антыбальшавіцкія, але і антыгітлераўскія пазіцыі ("Беларуская незалежніцкая партыя", 1942—1944). Напрыканцы вайны беларускія дзеячы на акупаванай тэрыторыі рабілі захады, каб рэалізаваць свае спадзяванні на міжнароднае пасляваеннае вырашэнне пытання аб суверэннасці Беларусі. Па звестках савецкай разведкі, яны праз беларусаў у Англіі ўстанавілі сувязь з прадстаўнікамі ўрада гэтай краіны, з якімі вялі перамовы аб стварэнні ў пасляваеннай Еўропе самастойнай беларускай дзяржавы (гл.; Соловьев А. К. "Они действовали под различными псевдонимами". Мн., 1994). Праўда пра лёс Беларусі ў гады другой сусветнай вайны шмат кім (асабліва людзьмі старэйшага веку) не прымаецца, а тымі, хто прыйшоў цяпер да ўлады, аб'яўляецца фальсіфікацыяй. Але прыйдзе час, калі грамадскасць будзе ў стане ўспрыняць горкую праўду высновы Васіля Быкава, што ў гады вайны "нацыянальная воля беларусаў да ўласнага самавызначэння, таксама, як і да самавыжывання, нікім у разлік не прымалася". Як і сцвярджэнне Л. Геніюш, што напрыканцы вайны нямала людзей "з болем ад'язджалі ў сьвет і толькі таму, што бесперспектыўнасьць беларускай нацыянальнай справы пры Саветах была ім ведамая даўно". Дадамо, што таксама баючыся хуткага і "неправога" суда, арышту ці высылкі, бо ўсялякая дзейнасць на акупаванай тэрыторыі лічылася супрацоўніцтвам з ворагам. У час вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў Калубовіч эмігрыраваў у Германію. У Берліне працягваў палітычную дзейнасць як сябра БЦР (кіраўнік яе аддзела прэсы, прапаганды і культуры, удзельнік выпрацоўкі статута БЦР). Пасля рэарганізацыі БЦР у студзені 1945 года як сябра калегіі (урада) загадваў аддзелам прапаганды і культуры.

Напрыканцы вайны Калубовіч трапіў у лагер для перамешчаных асобаў амерыканскай зоны акупацыі Германіі. Каб пазбегнуць прымусовай рэпатрыяцыі ў СССР, змяніў прозвішча на Каханоўскі, з якім пражыў усе гады эміграцыі. У 1945—1950 гадах працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры Беларускай гімназіі імя Я. Купалы ў лагерах для перамешчаных асобаў (Рэгенсбург, Міхельсдорф, Віндышбергердорф, Розенгайм). У 1947 годзе пад псеўданімам А. Верасень у Баварыі (Міхельсдорф) выдаў падручнік для сярэдняй школы "Паэтычная стылістыка" і да 30-х угодкаў смерці М. Багдановіча — брашуру "Пясьняр свабоды і красы".

Праявіў сябе як актыўны арганізатар нацыянальнага грамадска-культурнага і палітычнага жыцця ў беларускіх лагерах для перамешчаных асобаў. Узначальваў раду Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рэгенсбургу (чэрвень 1945 года), арганізаванага "дзеля каардынацыі рэлігійнай, грамадскай і культурнай дзейнасці беларусаў (польскіх грамадзянаў) у Ніжняй Баварыі і Верхнім Фальцу". Калубовіч выступіў за самароспуск БЦР (адбыўся ў верасні 1945 года ў Вюрцбургу) і стаў ініцыятарам стварэння новага беларускага палітычнага прадстаўніцтва на эміграцыі — Беларускага нацыянальнага цэнтра (жнівень 1945 — снежань 1947 гадоў), быў абраны намеснікам яго старшыні. Пасля аднаўлення на эміграцыі Рады БНР (снежань 1947 года) увайшоў у яе склад, стаў прэм'ер-міністрам урада і міністрам замежных спраў. Калубовіч выступіў стваральнікам Беларускай нацыянальна-дэмакратычнай партыі (пазней Аб'яднанне беларускіх нацыянал-дэмакратаў), якая была заснавана ў 1946 годзе і абвясціла сябе прадаўжальніцай ідэй і традыцый беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі 20—30-х гадоў.

У 1950 годзе Калубовіч з лагера для перамешчаных асобаў выехаў у ЗША, дзе так і не прыняў грамадзянства гэтай краіны з прынцыповых меркаванняў. Зарабляў сабе на жыццё, працуючы рабочым на фабрыках у Нью-Йорку (верасень 1950 — кастрычнік 1951), а затым у Кліўлендзе (да выхаду на пенсію ў 1972 годзе). Адначасова займаўся літаратурнай, навуковай, культурна-асветнай і палітычна-грамадскай дзейнасцю. Адзін з ініцыятараў стварэння і кіраўнік дапаўняльнай беларускай школы, арганізатар нацыянальных культурных мерапрыемстваў для кліўлендскай беларускай супольнасці (літаратурных вечарын, курсаў беларускай спадчыны, лекцый па гісторыі і культуры Беларусі, святкавання гадавін абвяшчэння БНР, Слуцкага паўстання і інш.). Быў старшынёй Злучанага беларускага камітэта ў Кліўлендзе (арганізаваны ў 1952 годзе, існаваў нядоўга), які каардынаваў высілкі беларускіх арганізацый, прадстаўляў іх у гарадскіх мерапрыемствах. Выдавец "Бюлетэня" гэтага камітэта. Прадаўжаў дзейнасць як сябра Рады БНР (у першай палове 50-х гадоў і як намеснік прэм'ера ўрада), як адзін з кіраўнікоў Аб'яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў (існавала да пачатку 60-х гадоў). Арганізаваў з 1953 года выданне ў Кліўлендзе бюлетэня "Абежнік Цэнтральнага Камітэту" гэтага аб'яднання. Каб спыніць супрацьстаянне дзвюх палітычных плыняў — прыхільнікаў рады БНР і БЦР (адноўлена і рэарганізавана вясной 1948 года) — Калубовіч выступіў у 1953—1954 гадах адным з ініцыятараў стварэння каардынуючага і прадстаўнічага органа эміграцыі — Беларускага нацыянальнага камітэта Паўночнай Амерыкі, але гэтую ідэю гуртавання эміграцыі рэалізаваць не ўдалося.

Хаця друкавацца пачаў Калубовіч у даваенны час, але менавіта на эміграцыі сфарміраваўся як празаік, даследчык і папулярызатар мовы, літаратуры, гісторыі Беларусі. У яго публікацыях "Рэха 1-га Усебеларускага Кангрэсу на Захадзе" (1967—1968), "Айцы БССР і іхны лёс" (1982, 1985), "Акт 25-га сакавіка й адраджэньне нацыянальнай беларускай культуры" (1986), якія паявіліся ў ЗША, асэнсоўваецца складаны, супярэчлівы працэс станаўлення дзяржаўнасці Беларусі ў XX стагоддзі, пры гэтым выказаны погляд, альтэрнатыўны таму, які існаваў на той час у афіцыйнай гістарыяграфіі БССР. Першы Усебеларускі кангрэс падаецца як




"вялікая й вызначная падзея" ў гісторыі Беларусі, якая атрымала пэўны водгук у свеце, а разгон яго — як парушэнне Дэкларацыі правоў народаў Расіі, якая абвяшчала свабоду самавызначэння "вплоть до отделения и образования самостоятельного государства". БНР трактуецца як рэальная дзяржава, якая добра паспрыяла адраджэнню нацыянальнай культуры. Калубовіч падкрэслівае, што актам 25-га сакавіка беларуская дзяржава аднавілася ў этнаграфічных межах, абвясціла курс на незалежнае, дэмакратычнае існаванне, арыентацыю на агульнаеўрапейскі і сусветны вопыт. Як гвалтоўна перарваны ход падзей, процівага БНР, як "штучнае марыянэтачнае ўтварэнне" вызначаецца БССР, гісторыя якой раскрываецца праз трагічныя лёсы яе творцаў, што зыходзілі з нацыянальных інтарэсаў народа і баранілі іх.

Калубовіч — адзін з пачынальнікаў вывучэння гісторыі беларускай эміграцыі ("Нашыя папярэднікі ў часопісе "Беларуская думка". 1974—1975. № 18—19) абгрунтаваў яе прычыны, характар і перыядызацыю, вылучыўшы 8 хваляў ад старажытных часоў да другой паловы XX стагоддзя. На падставе гэтай працы зроблена карта пераміяшчэння беларусаў, якая ўвайшла ў атлас "Беларусы" (Мн., 1996). Шэраг публікацый Калубовіча прысвечаны значным у гісторыі і культуры Беларусі асобам, многія з якіх па ідэалагічных прычынах замоўчваліся ў БССР — архіепіскапу Варлааму, А. Абуховічу, М. Доўнар-Запольскаму, М. Куліковічу-Шчаглову, В. Іваноўскаму. У грунтоўнай працы "Мова ў гісторыі беларускага пісьменства" прааналізаваны лёс рукапіснай і друкаванай спадчыны XII—XVII стагоддзяў, архіваў і бібліятэк, зроблены гістарыяграфічны агляд стану вывучэння помнікаў беларускага пісьменства X—XVIII стагоддзяў, вызначана праблема іх пошуку і вяртання на бацькаўшчыну. Калубовіч — укладальнік, рэдактар і адзін з аўтараў зборніка "Янка Купала й Якуб Колас. 1882—1982. Вянок успамінаў пра іх". У гэтым выданні з іншага, невядомага на той час чытачу на бацькаўшчыне боку раскрываюцца постаці народных песняроў.

У літаратурных і публіцыстычных працах Калубовіч выступае не толькі як пісьменнік, але і гісторык. Яго ўспаміны "На крыжовай дарозе" — мастацкае ўвасабленне лёсу аўтара, асабістыя назіранні і роздум, развагі якога даюць уяўленне аб маштабах палітычных рэпрэсій на Беларусі ў пачатку 30-х гадоў, трагедыі беспадстаўна асуджаных прадстаўнікоў шмат якіх нацыянальнасцяў.

Аглядаючы доўгі і драматычны жыццёвы шлях Аўгена Калубовіча (памёр ён у 1987 годзе, пахаваны на беларускай дзялянцы гарадскіх могілак Кліўленда), хочацца адзначыць адну істотную характэрную яго рысу: якімі б ні былі абставіны яго лёсу, ён заўсёды заставаўся дбайным рупліўцам на ніве беларушчыны, верным ідэі беларускай дзяржаўнасці.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

НАТАТКІ З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ НА ГАЛІЧЫНЕ

# ШТО НАС ЧАКАЕ: АДРАДЖЭННЕ ЦІ АСІМІЛЯЦЫЯ?

Дагмы пра зліццё і росквіт нацый пры сацыялізме, пра стварэнне новай грамадскай фармацыі і новага савецкага чалавека, аб агульным шчасці, таксама, як і казка аб камунізме, аказаліся не чым іншым, як добрымі байкамі, а то і проста хлуснёй па дарозе ў нікуды. Хопіць выдумляць і эксперыментаваць, трэба ісці агульным шляхам чалавецтва. Усе краіны былога Саюза пайшлі па шляху дзяржаўнага будаўніцтва праз нацыянальнае самавызначэнне і адраджэнне. Гэта не азначае замкнёнасці, тым больш варожасці да іншых народаў, наадварот, мае на ўвазе раўнапраўе, узаемапаразуменне і ўзаемапавагу да іншых культур, традыцый, звычаяў.

Хлуслівым наскрозь аказаўся і перафразіраваны ў наш час ленінскі лозунг аб праве нацый на самавызначэнне: "Бярыце суверэнітэту столькі, колькі можаце панесць". Гэтая правакацыя, як вядома, скончылася Чэчнёй. Існуе агульны закон прыроды: больш моцныя паглынаюць слабейшых. Гэта датычыцца і чалавечай супольнасці. Але гэта тэма іншай размовы. Мяне ж у даным выпадку цікавіць, які рыкашэтам ударыў распад імперыі па так званых нацыянальных меншасцях, прасцей, па людзях, якія на гэты час апынуліся па-за межамі сваёй Бацькаўшчыны. У гэтым тэрміне ўжо закладзена дыскрымінацыя, маўляў, усе людзі як людзі, а мы нейкая меншасць.

На Украіне пражывае 440 тысяч беларусаў, гэта толькі тыя, хто не забыўся пра сваю беларускасць, на самай справе іх значна больш. Гэта амаль што 1 працэнт насельніцтва краіны з 52 мільёнамі, але аб сваіх нацыянальных інтарэсах заявілі лічаныя адзінкі, маюцца на ўвазе арганізаваныя нацыянальна-культурныя згуртаванні ў Львове, Ялце, Запарожжы і іншых гарадах. Гэта гаворыць аб тым, што беларусы на генным узроўні аказаліся нацыяй найбольш зруйнаванай, без гістарычнай памяці, асіміляванай. Толькі 35,5 працэнта з іх лічаць роднаю мовай беларускую, ведаюць жа яе значна менш, 55,2 працэнта роднаю лічаць рускую, 9,3 — украінскую. Таму звычайна на Украіне беларусы амаль што адзіная нацыянальная меншасць, якая не згуртавана арганізацыйна ў маштабах краіны. Дадам, што, напрыклад, габрэі маюць некалькі ўсеўкраінскіх арганізацый. Намаганні нацыянальна свядомых беларусаў-адзіночак — гэта амаль што галасы ў пустэльні. Іх памкненні натыкаюцца на безліч бюракратычных рагатак і больш за ўсё на абыякавасць суродзічаў. Прыкладам, у Львове ў пачатку заснавання таварыствам былі ажыццёўлены некалькі карысных праектаў. Так, выйшла беларускамоўная газета "Беларус Галічыны", загучала беларускае слова на львоўскім радыё, праграма "Весткі з Беларусі", адкрыты аддзел беларускай літаратуры ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Л. Украінкі, праведзены масавыя мерапрыемствы — сустрэчы, канцэрты, фестывалі і г. д. Але ўсё гэта не можа трымацца больш-менш доўга на адным энтузіязме. Патрэбна матэрыяльная, фінансавая і маральная падтрымка як з боку Украіны, так і Беларусі, таму што справа гэта — дзяржаўная. Трэба адзначыць, што з боку Украіны, асабліва на заканадаўчым узроўні, створаны амаль што ідэальныя ўмовы для развіцця нацыянальных меншасцей. Пачынаючы з Дэкларацыі правоў нацыянальнасцей ад 1 лістапада 1991 года, Вярхоўны Савет Украіны прыняў законы: "Аб нацыянальных меншасцях", "Аб грамадскіх аб'яднаннях", "Аб прававым статусе іншаземцаў", "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях", "Закон аб мове" і інш. Нарэшце, 15 верасня 1995 года, Украіна далучылася і падпісала Рамкавую канвенцыю Рады Еўропы "Аб абароне нацыянальных меншасцей".

Усё гэта азначае, што Украіна юрыдычна поўнасцю забяспечыла развіццё нацыянальных меншасцей і знаходзіцца ў гэтым пытанні на ўзроўні перадавых краін Еўропы. Але, каб ажыццявіць тое, што дэкларуе закон, патрабуюцца сродкі, ды іх, як вядома, няма. Таму і артыкул з закона аб тым, што "розвиток національних культур України гарантується економічним та матеріально-технічним потенціалом Держави. Це забезпечується: фінансуванням культурно-мистецької та освітньої діяльності національно-культурних товориств з державного бюджету та з бюджету місцевого самоврядовання", застаецца таксама дэкларацыяй намераў. Усё гэта тлумачыцца эканамічным станам і нам зразумела.

Але, і з другога боку, не-не ды і праявіцца іншае тлумачэнне такога стану. Напрыклад, у артыкуле газеты "Високі замак" І. Марушкіна з паліталагічнага цэнтра "Генеза", разглядаючы мадэлі разбудовы дзяржвы, піша: "Однією з таких моделей могла б стати модель, в основу якої буде покладено культурну традицію титульної нації — української. Ця модель передбачае політико-культурну асиміляцію більшості тих, хто сьогодні ідентифікуе себе з неукраїнцями". Вось так, на гэта не патрэбна ні турбот пра развіццё нацыянальных культур, ні сродкаў. Як пяецца ў адной рускай песні, "сама пойдет", бо па-сапраўднаму ніхто і не пярэчыць такім намерам.

Ніхто і не падумаў спытацца ў гэтай меншасці, а ці хоча яна знікнуць, зліцца, асімілявацца, ды так, каб нават дзеці і ўнукі не ведалі, хто яны і адкуль. Такім чынам, калі нацыянальная меншасць, не здольная супроцьстаяць асіміляцыі, не можа заявіць аб сваіх нацыянальных інтарэсах і каштоўнасцях, ёй застаецца адзін шлях — знікнуць. І гэта нават не залежыць ад колькаснага складу меншасці. Напрыклад, з маўклівай згоды амаль што 200 тысяч расіян з тэрыторыі Галічыны ў апошнія гады знік — рускі, адзіны ва ўсім заходнім рэгіёне прафесійны драматычны тэатр (ПРЫКВО), а з 26 рускіх школ засталося 2—3 і то пад пытаннем. Адзіная рускамоўная газета "Високі замак" уціснулася ў толькі суботні нумар, заблакіравана расійскае тэлебачанне. Усё гэта вынік нацыянальнай абыякавасці, якая вядзе да асіміляцыі.

Як кажуць, прастора не цярпіць пустаты, тым больш культурная. Можна сказаць, што гэта годны адказ на шматгадовую русіфікацыю, і гэта будзе праўда, але няпоўная. Галічане — цывілізаваныя людзі і добра разумеюць, што асіміляцыя праходзіць праз сэрца кожнага, а мяжу яе вызначае нацыянальная самасвядомасць усіх. Што ж датычыцца беларусаў на Галічыне, то мы не адчуваем аніякай помсты, ды і няма за што нам помсціць, аніякага ўціску, і пытанне адраджэння нашай беларускасці залежыць, у першую чаргу, ад матэрыяльных магчымасцей і, у другую, ад нас саміх. Але наш гістарычны менталітэт, наша прыроджаная мяккасць, нашы стагадовыя добрасуседскія адносіны маюць і адваротны бок. Многія мяркуюць, што з беларусамі і сёння можна не лічыцца, калі мы самі, жывучы ў цэнтры Еўропы, не хочам быць еўрапейскай краінай, не хочам "людзьмі звацца".

Няма цяпла і з боку Бацькаўшчыны. У яе іншыя клопаты, падчас нам зусім незразумелыя. Нам здаецца, што Украіна і Беларусь самім лёсам вызначаныя быць стратэгічнымі партнёрамі і сябрамі. Блізкае суседства, амаль што аднолькавая гісторыя, сястрынская мова — усё гэта чыннікі, якіх нельга не заўважаць. Украіна можа быць добрым прыкладам і ў разбудове сваёй дзяржавы, яна разлічвае на свае сілы і свой народ. Не выпадкова, Прэзідэнт Украіны з нагоды Дня незалежнасці прывітаў украінцаў усяго свету, адзначыўшы важкі ўклад у разбудову дзяржавы, зроблены выхадцамі з Украіны і іх нашчадкамі, раскіданымі па цэлым свеце. На жаль, у Беларусі іншае стаўленне да сваіх суайчыннікаў за яе межамі. І гэта вельмі шкодзіць жыццю дыяспары. Тым не менш, Беларусь для нас застаецца маці, і чым ёй горш, тым больш баліць душа ў яе сыноў і дачок. Таму мы будзем працаваць, нягледзячы на перашкоды, дзеля таго, каб жыў святы для нас прызыў: "Жыве Беларусь!"

**Барыс ЦІМОШЧАНКА,**
**старшыня Беларускага нацыянальна-культурнага таварыства імя Ф. Скарыны "Белая Русь".**
Украіна,
г. Львоў.

## З-ЗА МЯЖЫ

**У Англіі нядаўна пабывала Лідзія Савік, яна сустракалася там з беларусамі. Адзін з іх перадаў ёй свае вершы для "Голасу Радзімы", якія мы сёння і змяшчаем.**

**Ю. В—СКІ**

### МЕСЯЦ, ДЗІВА ГОДНЫ

Месяц, месяц, дзіва годны,
Выпаў табе лёс нягодны,
Колер, выгляд ты мяняеш,
Ды што робіш, сам ня знаеш.

Раз ты свеціш ясна, чыста,
Другі раз быццам імгліста,
А бывае недзе згінеш —
Цёмну ночку нам пакінеш.

Дзе ты ходзіш! Дзе бываеш!
Ці сяброў якіх ты маеш!
А мо' блудзіш дзесь начамі
Па-над хмарамі гарамі.

Часам выстаўляеш рогі,
Тады чвэрць цябе, убогі,
І плывеш так у прасторы,
Быццам па шырокім моры.

І хто сказаў бы дзе, калі!
Месяц упаў аж да зямлі,
Свой горб бліскучы паказаў,
Калі з-за лесу уставаў.

Апрануўшы срэбны шату,
Праз вакно глядзіць у хату,
Разіць людзям сыпячы вочы,
Не дае заснуць у ночы.

Месяц дзіўны і чароўны,
Калі станецца больш поўны
І так свеціш на край свету,
Хоць бяры чытай газэту.

А пісала раз газэта,
Што наш месяц ёсць планэта,
Ды хоць далёка ад зямлі,
Людзі, аднак, на ёй былі.

### ВОСЕНЬ

Восень цёмная халодна,
І туманна, і вільготна,
Дожджык падае, цярушыць,
Страшна нават з хаты рушыць.

Сумна гэта пара года:
Вецер, холад, непагода,
Апусцела наваколле,
Голы луг, і гола поле.

Птушкі ў вырай адляцелі,
Мала што ўжо есці мелі,
Замірае ўся прырода
Да вясны другога года.

І настрой людзей пануры,
Згодна восеньскай натуры,
Рана вечарам цямнее,
Холад кожны дзень мацнее.

Бывае ўсё ж у час такі,
Быццам праз доўгія вякі,
Засвеціць сонейка ярчэй,
І на душы тады лягчэй.

Восень гэта ёсць такая,
Завуць яе — залатая,
На яе канцы — парозе,
Мяцель круціць на марозе.

### ЛЕС ВЯСНОЮ

Добра зайсці ў лес вясною,
Ціхай, цёплаю парою
І паслухаць яго зыкі,
Шумнай песні і музыкі.

Мае лес чым пахваліцца,
Ёсць у ім чым падзівіцца,
Тут інакш свет выглядае,
Свае норавы ён мае.

А які ў ім цуд, ігрышча,
Нават вецер інакш свішча,
Кожны жыхар мае права
Даць канцэрт сабе на брава.

Дзяцел — музыкант заўзяты
Барабаніць, як наняты,
Ён заснуць ня дасць нікому,
Ні сляпому, ні глухому.

Прабудзіліся стварэнні,
Усе лясныя пакаленні,
Нават тыя, што у пушчы —
Непраходнай глухой гушчы.

Скача, бегае вавёрка,
З яе спрытная танцорка,
Хвастом сябе украшае,
Быццам веерам махае.

Жаваранак дзесь высока
Трэллі свае шле здалёка
На палі, лугі, даліны
І лясныя верхавіны.

А у гушчары дзікі звер,
Што мае ўроджаны манер,
Свайго логава пільнуе
І дзяцей у ім гадуе.

Птушкі ў лесе са звярамі
Чуюцца гаспадарамі,
Жыццём сваім весяліцца,
Толькі нас, людзей, баяцца.

### ВЕСНАВОЙ ПАРОЙ

Веснавое сонца,
Вышэй падыміся,
Сваімі праменьмі
Да нас усміхніся.

Сонца паднялося,
За хмарай свяціла,
А нашу прастору
Шэра цень пакрыла.

Падуў з поўдня, вецер,
Цеплынёй лагоднай,
Абагрэй зямельку
Па зіме халоднай.

Падуў вось і вецер,
Якога чакалі,
Ды быў ён халодны,
Каб яго віталі.

Пайдзі, дробны дожджык,
На нівы, што ў глебе,
Якія ты корміш
Хмарамі, што ў небе.

Пайшоў дождж, ды з бурай,
Вада аж шумела,
Нівы залівала,
Людзям сэрца млела.

Не раз нас загоніць
Дождж, вецер і сонца
У зацішную хату
Глядзець праз ваконца.

*Лондан, 1986 г.*



**На адным з участкаў Белавежскай пушчы ў Пружанскім раёне ствараюцца неабходныя ўмовы — будуюцца жылыя домікі, рыхтуюцца сабакі і рыштунак — для палявання на капытную і вадаплаўную дзічыну. Пастраляць пад наглядам вопытных паляўнічых тут змогуць жадаючыя з любой краіны, а выручаныя за кошт гэтага сродкі будуць накіраваны на ахову біялагічнай разнастайнасці нацыянальнага парку.**

**НА ЗДЫМКУ: паляўнічы домік у адным з кардонаў пушчы.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

**Імя пісьменніка Анатоля Кірвеля даволі часта з'яўляецца на старонках "Голасу Радзімы". Ён дасылае артыкулы, рэцэнзіі на творы беларускіх паэтаў і празаікаў, свае ўласныя вершы. Дасылае, таму што жыве ў Санкт-Пецярбургу. Але, наведваючы Мінск, ніколі не абмінае рэдакцыю, прыносіць свае творы або проста завітвае ў госці, каб сагрэць душу не толькі кубачкам кавы, але і шчырай размовай. Анатоль Кірвель — мудры субяседнік, сваю мудрасць увасабляе ў афарыстычныя вобразы. Мы ўжо знаёмілі сваіх чытачоў з падборкай яго вершаў у прозе. Сёлета ў пісьменніка выйшлі дзве новыя кніжкі "Чалавеку ўласціва..." (вершы і мініяцюры ў прозе) і паэма "Формула замежжа". Знаёмім нашых чытачоў з урыўкамі з гэтых твораў.**

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

## НОЧ ПАКУТНІКА

*(З КНІГІ «ЧАЛАВЕКУ ЎЛАСЦІВА...»)*

* * *

Стамляе не мудрасць.
Стамляе безнадзейнасць.
Маладосць не ведае стомы:
нашто ёй лішнія клопаты:
тое, што непазбежна —
хай прыходзіць у свой час —
час сталення.

* * *

Бяры тое, што ёсць: лепшага
табе не
дадуць.
Лепшае — у табе самім.
Калі ты — не з горшых.

* * *

Сонца свеціць усім
аднолькава.
Ды не ўсім аднолькава грэе:
у аднаго на галаве шапка,
у другога — лысіна.

* * *

Тое, што дадзена табе,
дадзена ўсім.
Але камусьці гэтага мала,
камусьці многа.
Аддаць таму, каму мала!
Мяркуеш: як аддасі — дык
страціш.
Мяркуючы — страчваеш.

* * *

Сцеражыся ведаў:
яны памножаць твае пакуты.
Не пазбягай ведаў —
ратунку ў віры пакут.

* * *

Чаканне — найлепшыя лекі.
Калі маеш надзею.

* * *

Не шкадуй сябе. Шкадуй
суседа:
ніхто лепей за яго не падкажа
табе,
як не трэба жыць.

* * *

Святло прыходзіць тады,
калі пераступаеш мяжу
цемры.
Святло — стамляе, цемра —
выратоўвае.
Таго, хто праз яе прайшоў.

* * *

Помста — нож, якім ты
самаруч
адразаеш кавалкі ад свайго
жыцця,
якія ўсмак таму, каму ты
помсціш.

* * *

Адзінота — знямога.
Адзінота — ратунак.
Адзінота — тое, што патрэбна
толькі аднаму.
Там, дзе двое, — там альбо
еднасць, альбо нянавісць.

* * *

Стаяць на месцы — асалода
хіба для слупа.
А калі ты — не слуп!

* * *

Смерць прыходзіць не тады,
калі яе
чакаеш, а тады,
калі ёй зручней.

* * *

Перамагчы сябе можна толькі
пры адной умове:
калі ёсць што перамагаць.

* * *

Лёс не бывае няўдзячны.
Часцей за ўсё — ён
справядлівы.

## ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПРАМЫЯ

*(З ПЕРШАЙ ЧАСТКІ ПАЭМЫ «ФОРМУЛА ЗАМЕЖЖА»)*

* * *

Спакой знаходзяць толькі
шчаслівыя.
Дасягае мэты толькі той, хто
імкнецца.
Радасць не адмаўляе толькі
тым,
хто з ёй сябруе.

* * *

Спагада — момант.
Спачуванне — імгненне.
Жыццё — вечнасць.

* * *

Спатыкаюцца — і на роўнай
дарозе.
Не спатыкаецца — адно душа —
калі не хавае камень за пазухай.

* * *

Паралельныя прамыя — не што
іншае,
як душа і цела:
неразлучныя — цэлую
вечнасць!

* * *

Не чапай у сабе звера —
ён абудзіцца сам.
Звер прагне наталення.
Наталіўшыся — засынае.
І толькі тады
ў табе прачынаецца той,
кім ты ганарышся, —
Чалавек!

* * *

Адмірае тое, што не
карыстаецца попытам.
Што будзе спажываць душа,
страціўшы звыклую ежу —
пачуцці!

* * *

Ці ёсць Мяжа, якую
не асмельваецца
пераступіць чалавек!
Адзінае, што яго спыняе, —
Мяжа паміж жыццём і смерцю.
За ёй — усе астатнія межы —
Крокі.

* * *

Прарок не падводзіць рысу —
ён пазначае Мяжу.

*З АРХІЎНАЙ СПРАВЫ ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ*

# СТО РАНАЎ У СЭРЦА

Я далей не вучылася, у бацькоў было нас сямёра дзяцей, а навука каштавала вялікія грошы. Я была найстаршай з дзяцей, і часта бацька ўскладваў на маі дзявочыя плечы абавязкі гаспадара. Я вазіла прадаваць бульбу і збожжа, выпрошвала адклад ліцытацыі* (прымусовы продаж маёмасці. — **Я. К.**) маёмасці за даўгі і неймаверна вялікія падаткі, старалася разлажыць на сплаткі вялікі банкаўскі доўг. Я горача кахала зямлю, садзіла на ёй лес і кветкі, жала і грабіла, прала лён і ўслухалася ў песні, казкі і прымаўкі нашых людзей. Паэзія Міцкевіча, філёмата і філярэта, ящчэ ў школе адкрыла мне вочы на вялікія скарбы, схаваныя ў нетрах народнай душы. Сяляне былі ў сваёй большасці бедныя, многа раз ужо яны падзялілі свае надзелы, і не ўсім з іх хапала хлеба да новага. Але яны былі сціплыя, зарадныя, працавітыя. Свята і цесна злучаныя з зямлёй, толькі яны маглі выжыць у такіх варунках і заставацца людзьмі. Душа мая была поўная гімнаў для іх, якія пасля, на чужыне, выліліся ў гарачыя вершы. У мяне не было паспарту, але аднойчы, узяўшы ў рукі паспарт нашага рабочага, у рубрыцы народнасць я прачытала, што ён — тутэйшы... Мне стала агідна і



крыўдна, і я адчула пякучае таўро няволі на целе беларусаў. Былі мы выкарыстоўваемыя і змучаныя на нашай зямлі.

У крамах не было сталых цэнаў на тавары, як і не было іх на сельскія прадукты. Цэны на іх залежалі ад згавору і капрызу прагных купцоў. Яны вельмі нізка падалі ў час аплаты падаткаў, а вясной ізноў, калі трэба было дакупіць хлеба, неймаверна падымаліся ўгору. Маленькія гробікі дзяцей бясконца вандравалі на могілкі, а саслабыя жанчыны, ледзь паспеўшы нарадзіць дзіця, ішлі на работу. Сто ранаў у сэрца было для мяне бачыць усё гэта і ўсё гэта стрываць. Памятаю аднойчы, як назначылі ліцытацыю за падаткі нашай жывёлы, свіней і збожжа. Было гэта неспадзявана. Сярод ночы я знайшла ў Лунне начальніка падатковага ўраду і вынянчыла ў яго стрыманне той ліцытацыі. Ён спрачаўся са мною, адцягваў час. Ліцытацыя была назначана на 12 г[адзін] дня, а тое ўстрыманне ён падпісаў мне ў 11,30. Перада мною было 12 вёрст дарогі, і я паспела. Я амаль загнала каня, але выратавала жывёлу і гаспадарку. Сэквэстратары ганяліся за свінямі па ўсім панадворку, а бабы, стоячы, хахаталі над іх бездапаможнасцю, кажучы: "Вось цяпер дык у нас будуць парасяты..." Я ўсё прыпыніла. Адвязалі каровы ад вазоў, пазаганялі свіні, ізноў у тарпіну зпажылі з вазоў цяжкія жытнія снапы. Сэквэстратары азвярэлі. Нічога ўжо не могучы зрабіць нам, яны ўварваліся ў сяло і там патрабавалі грошай за падаткі. Калі ім давалі квіты, яны рвалі іх на ачох у людзей. Я ўвайшла ў сяло, вазы начальства былі поўныя дыванаў, палотнаў і скруткоў лёну. Да ручак вазоў былі прывязаны цялушкі і каровы, якія рваліся з вяровак, бо ніколі не хадзілі ящчэ на валаводзе. Сэквэстратары ўварваліся ў хату беднага Пятручка, якога швагерка служыла ў жыдоў. Адкрылі швагерчын куфар і пачалі рабаваць. Жонка Петручкова сілай бараніла гэты тканы і прадзены дзявочы сястрын пасаг, яе кінулі на зямлю і таўклі ботамі. Пасаг з куфра разкупілі за бесцэнь воўпскія яўрэі, а Петручкова жонка ў муках нарадзіла неданошанае, нежывое дзіцятко... Як жа было мне цяжка.

Аднойчы я моцна пасварылася з татам, проста зазлавалася і ўцякла з хаты. Забраў мяне да сябе дзядзька ў Петравічы. Я была вельмі сумная і вельмі горда, ужо змучаная жыццём. Там я сустрэла іншых сялян, гэта ўжо былі людзі бунтарныя і ідэйныя, яны змагаліся. Гэта яны пяялі мне: "Жыў на свеце Лявон" апавядалі пра турмы. Там я пазнаёмілася з маім мужам.

Аднойчы ў час масавых арыштаў забралі і маяго дзядзьку. Цётка ў плач, а я запрагла каня і следам за імі. Закавалі дзядзьку, пасадзілі на воз, а кругом расселіся паліцыянты. Да аглобляў з аднаго і другога боку прыкавалі хлопцаў, здаецца, што з сяла Цыганаўкі. Вязу я гэту нечысць і вывытваю, куды іх вязуць. Даведалася, што ў Ваўкавыск. Цяжка каля "Чортавай печы" ййшоў конік пад горку, нават паліцыянты палазілі. Дрыжыць мой дзядзька і шэпча мне: "Калі ізноў пасядаюць на воз, дык ты іх хапі за вінтоўкі, каб не стрэльнулі, а я махану ў лес, бо як будуць біць..." Я палічыла гэта лішне рызыкоўным. Дзядзьку і многа хлопцаў тады выпусцілі, але гдзе-каторых я бачыла, як вялі па Ваўкавыску, а яны ледзь прыступалі на ногі. Пасля я даведалася, што іх гумамі білі ў пяты. Адзін чалавек з той вёскі ўцёк тагды ў СССР. Засталася хворая жонка і двое дзяцей. Я проста пакінула багатую дзядзькаву хату і перабралася да іх. Вадзіла каня на балота, паліла ў печы, даіла карову, глядзела дзяцей ды па загаду нейкага фельдшара ўсё ставіла бедная жанчыне банкі на яе хворы бок. Але хутка мой тата прыслаў па мяне коні, і я ізноў вярнулася ў Жлобаўцы.

Неўзабаве я выйшла замуж, як і хацела — за беларуса. Муж мой вучыўся ў Празе Чэскай, быў ён сынам беднага бацькоў. Каб вучыцца, ён працаваў фізычна, а пасля за гэтыя грошы вучыўся. Так ён і чарадаваў працу з вучобаю. Яму заставалася ящчэ здаць дзяржаўныя экзамены. Хутка па вяселлі, ранняй вясной паехаў ён у Прагу канчаць мэдыцыну, а я засталася ў Зэльве. Ён пакінуў мне многа кнігаў на роднай мове, і я прагна пачала знаёміцца з нашай літаратурай. Тагды, апрача Купалы, Коласа і Багдановіча, я сустрэлася з жывой і бунтоўнай паэзіяй Максіма Танка. Мне здавалася, што гэты дарагі, вялікі мастак адкапаў нейдзе несказаны скарб і вось шчодрай жменяй вяртае яго ізноў народу. Я прагна чакала яго новых вершаў і адчувала вялікую сугучнасць маіх думаў і спадзяванняў з ягонай паэзіяй. Я ўжо сама пісала даўно, ящчэ са школьных гадоў, але вершы свае хавала далёка з нейкай дзіўнай асцярожнасці, каб іх не кранула хто ндобрым словам, не высмеяў. Гэтага я не магла б стрываць, бо ў іх была душа мая, раненая і гордая. Калі мне было цяжка, я перачытвала іх. Яны загінулі.

Быў май 1935 г[ода]. Вокал Зэльвы было неспакойна. Людзі вывешвалі па дарогах сцягі, патрабавалі роднай школы і волі. Пачаліся арышты. Днём гналі дарослых, на досвітку малых дзяцей, якія паганілі партрэты Пілсудскага і дамагаліся роднай мовы. Аднойчы адзін са звяволеных, не вытрымаўшы катавання, зарэзаўся ў склепе зэльвенскай паліцыі. Лекар, які ўскрываў яго, гаварыў, што ад біцця цела адстала яму ад касцей. Мне рабілася жудасна. Народны боль рабіўся асабістым, нясцерпным. Было мне ўстыд на наша крываваe стагоддзе і адчай з мае жаночай бездапаможнасці. Хавалі забітага. Паліцыя разганяла людзей на рынку. Я ўвайшла ў склеп, гдзе ён ляжаў. Быў гэта невялікага росту малады чалавек, у тканым цёмным каптане, з крыху аспаватым тварам. Ляжаў, быццам закаланелы з болю. Вокал яго сядзелі сціплыя сялянкі, выціраючы слёзы, і стаяла паліцыя. Мне падкасіліся ногі, я стала на калені і пасля кароткай малітвы пацалавала руку памёршага. Гледзячы смела ў вочы ворагам, я іх запыталася, дакуль гэта яны будуць здзекавацца над намі. Сказала ім, што ў мяне будзе сын і я яго выхаваю і аддам для змагання за волю, як і сябе. Я выйшла. За поўгадзіны пачаўся крык і плач у хаце з маяго гэтага сказу. Мужаў бацька, які вельмі любіў мяне, пабег у паліцыю з просьбаю, бо прыказалі мне хадзіць мэльдавацца ("мэльдаваліся" — перыядычна з'яўляліся ў паліцыю для рэгістрацыі паднаглядныя асобы. — **Я. К.**) Абараніў ён мяне, скідаючы ўсё на цяжарнасць. Усё начальства было як восы, мяне ганілі і ненавідзелі. Я маўчала. Было мне і ад сваіх, і ад чужых. Я ящчэ больш пагоршыла долю мужа, якому і так не лёгка было жыць і вучыцца. Аб сабе я не думала, мне не магло быць горай, як нам усім, а лепей — я не хацела! Прыехаў муж, перапалохаўся атмасферы навокал нас. Я забылася пра жлобаўскае, усё ж крыху панскае жыццё, спакойна закасала рукавы і прынялася за гаспадарку. З мужам мы ізноў знаходзілі супольную мову. Выходзячы замуж, я яго папярэдзіла, што жыць буду толькі для Беларусі. Ён абяцаў мне падтрымку. Збліжаліся выбары ў сойм, беларусы тыя выбары байкатавалі. Верныя сабе, не пайшлі на тыя выбары і мы. Каля нас стала трывожна і ціха.

**Ларыса ГЕНІЮШ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 49.**

**НА ЗДЫМКУ: Ларыса ГЕНІЮШ з мужам і сям'ёй сына.**

# У ЗГОДЗЕ З САБОЮ І МАСТАЦТВАМ

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Мяне ж тады стаў цікавіць свет як духоўная з'ява. Я ўпэўнена, што акрамя матэрыяльнага свету існуе нябачны духоўны свет, і маёй задачай стала адчуць яго, знайсці і матэрыялізаваць у жывапісе. У палітры з'явіліся новыя фарбы, я стала выкарасквацца са сваіх клопатаў і праблем, набыла іншую пластычную форму.

*— Мне здаецца, што вы — моцная жанчына. Ці так гэта?*

— Думаю, што так. Слабая не змагла б вытрымаць існуючую ў нашым мастацтве сістэму, якая таптала, душыла і размазвала ўсіх, хто быў хоць чым-небудзь не падобны да іншых.

Асабліва даставалася мастакам, якія былі гэтаму грамадству не патрэбны. Мае сябры за мяжой здзіўляліся: ты ж магла, хоць і не дорага, але прадаваць свае работы і атрымліваць за іх нейкія грошы. Госпадзі, ды калі б мае работы былі патрэбны, хаця б каму-небудзь патрэбны, я б іх проста дарыла! Але яны былі не патрэбны, і гэта было жахліва... Не, я не скарджуся, гэта быў мой шлях, я яго сама абрала і проста сумленна рабіла тое, што лічыла патрэбным.

*— Ці змянілася, на ваш погляд, што-небудзь цяпер?*

— Баюся, што не. Іншы раз мне бывае шкада, што мае работы застануцца там, за мяжой. Але, з другога боку, магчыма, дзякуючы гэтаму тое, што я раблю, захаваецца ўвогуле. Цяпер гэтай краіне зноў не да мастацтва. Дзяржаўны музей набываць жывапіс не ў стане, ён знаходзіцца ў цяжкім фінансавым становішчы, і я зноў не ўпэўнена, што мае работы былі б патрэбны, калі б я іх проста падарыла.

*— Раскажыце пра работы, якія вы ствараеце за мяжой.*

— Калі я прыехала ў Аўстрыю, мяне ўжо там ведалі, таму што было куплена нямала маіх работ. Я пішу многа партрэтаў і кампазіцый, нядаўна распісала там царкву. Мне ўжо даўно хацелася распісаць храм. Я вельмі люблю фрэску, лічу яе самым высокім мастацтвам, паколькі яна патрабуе пошукаў гармоніі архітэктуры і жывапісу, а значыць, і глыбокага асэнсавання таго, што пішаш. У сямідзесятыя гады я знаходзілася ў вельмі добрай форме, я гарэла, я магла ўсё! Мне вельмі хацелася зрабіць нешта для царквы зусім бясплатна, але колькі я ні спрабавала прапанаваць свае паслугі, ад мяне адхрышчваліся, як ад нячыстай сілы. Сама я чалавек веруючы і часта звярталася да біблейскіх сюжэтаў. Здарылася так, што мая карціна пад назвай "Ражство" трапіла ў Аўстрыю, дзе яе і ўбачыў мясцовы свяшчэннік. Ён быў ад яе ў захапленні і асвяціў у сваёй царкве. Потым свяшчэннік сказаў мне, што ў яго царкве ёсць невялікі пакой для індывідуальных малітваў, які ён хацеў бы бачыць распісаным. Пры гэтым ён прадаставіў мне поўную свабоду — рабіце так, як вы гэта бачыце. Белыя сцены, высокая столь... У гэтым ёсць нейкая магія, я адразу ўбачыла, якой павінна быць гэтая фрэска... Калі я прынесла эскізы, свяшчэннік згадзіўся з імі без аніякіх заўваг. Я выканала гэты роспіс практычна за месяц, на адным дыханні.



*— А як свяшчэннік паставіўся да таго, што пратэстанцкую царкву распісвала праваслаўная мастачка?*

— Сапраўды, гледзячы на гэты роспіс, немагчыма не адчуць, што рабіў яе праваслаўны мастак, але там гэта нікога не бянтэжыць, да Бога, як, зрэшты, і да многага іншага, там ставяцца вельмі проста. Можа быць, таму і Бог да іх больш лагодны...

Мясцовыя жыхары дапамагалі, як маглі: мылі пэндзлі, часталі... Я распісала там яшчэ і галерэю, а Галіна Гаравая зрабіла "Піету" — аплакванне, два падсвечнікі і два крыжы на алтар.

*— На вашых карцінах многа птушак, і ў іх чалавечыя вочы...*

— Я вельмі люблю птушак, яны жывуць у небе, яны — нешта прамежкавае паміж намі і анёламі. Птушкі ўносяць у наш свет тайну, яны істоты асаблівыя. Я малюю розных птушак, птушак-пярэваратняў, птушак-інкубаў, якія начамі прыходзяць да нявінных дзяўчат, і ад гэтага саюза



потым нараджаецца страшнае і загадкавае...

*— Вас не трывожыць, што вашы работы нехта можа не зразумець?*

— Мая пластыка даволі складаная, яна не для абывацеля. Але я лічу, што мастак і не павінен ставіць перад сабою мэту быць зразуметым усімі. Жывапіс, як і літаратура, мае сваю мову, і каб яго зразумець, трэба вучыцца.

*— Мастацтва — для эліты?*

— А яно для эліты і існуе. Доўгія гады збівала з панталыку ленінская фраза аб тым, што мастацтва належыць народу. Па вялікаму рахунку, усё, што робяць мастакі, прызначана для людзей. Але чаму народ павінен абавязкова асацыіравацца з натоўпам? Два-тры чалавекі, якія зразумелі твор мастацтва, — таксама народ. І не мастак павінен апускацца да ўзроўню народа, а народ узнімацца да ўзроўню мастака.

*— Вы цяпер існуяце ў згодзе з самой сабою?*

— Сёння мне пішацца вельмі лёгка, палітра стала светлай, з'явілася адметная ўмоўнасць. Нядаўна ў мяне адбыліся выставы ў Цюрыху і Аўстрыі, мне не трэба думаць ні пра што, акрамя мастацтва. Нават неяк дзіўна, быццам Бог паднёс падарунак... Думаю, што калі б у свой час мне не было дрэнна, я б не адбылася як мастак. Няўжо сапраўды за ўсё адплачваецца?

*— Узрост жанчыны, як вы да яго ставіцеся?*

— Вядома, я б хацела, каб гадоў мне было менш... Шкада, што ўсё пачалося занадта позна, але да ўзросту свайго я стаўлюся вельмі спакойна і нармальна сябе адчуваць пачала недзе гадоў у трыццаць пяць. Маладзейшай я быць не хацела б. Маладосць — гэта здорава, але ўзамен прыходзіць нешта больш важнае.

*— Якой мастачкай вы сябе адчуваеце — рускай, беларускай, еўрапейскай?*

— Я — беларуская мастачка. Нарадзілася ў вёсцы Старое Сяло Веткаўскага раёна, вырасла ў Беларусі, тут мае сябры. Але мне хацелася б мець магчымасць вольна перамяшчацца па свеце, пісаць тое, што я хачу, і там, дзе хачу. Мастацтва становіцца па-сапраўднаму высокім толькі тады, калі яно інтэрнацыянальнае, калі тое, што робіць мастак, цікавае і мае каштоўнасць не толькі для яго краіны, але і для ўсяго свету.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: творы Зоі ЛІТВІНАВАЙ.**



## НАЛЕЖАЦЬ І НАШАЙ ГІСТОРЫІ

# ГРОДЗЕНСКІ ДРУКАР ЗЫМЕЛЬ НАХІМОВІЧ

У гісторыю выдавецкай справы на Беларусі яўрэйскія друкары ўпісалі шмат цікавых старонак. Многае сёння засталося яшчэ па-за ўвагай даследчыкаў, не ацэнена належна дзейнасць яўрэйскіх друкарняў і іх роля ў развіцці яўрэйскай культуры, ды і ўвогуле культуры Беларусі. Такой невядомай старонкай з'яўляецца і дзейнасць буйнейшай у першай палове XIX стагоддзя на сучаснай тэрыторыі Беларусі выдавецкай фірмы Зымеля Нахімовіча.

Пачатак выдавецкай фірме ў Гродне паклаў бацька Зымеля Нахім Гісер, які прыехаў у горад па запрашэнні падскарбія літоўскага і гродзенскага старосты Антонія Тызенгаўза. У гэты час Тызенгаўз наладзіў у Гродне друкарню, варштаты якой былі перавезены сюды з езуіцкай друкарні з Вільні. Але шрыфты там былі ўжо старыя, спрацаваныя, акрамя таго, гродзенская друкарня Тызенгаўза ўвесь час пашырала выпуск друкаванай прадукцыі: наладзілі друкаванне газеты, выпускалі копіі сеймавых прамоў, адвакацкія позвы, навуковыя трактаты. Таму менавіта Тызенгаўз і запрасіў з Галіцыі бацьку Зымеля Нахімовіча, які быў вядомы як выдатны гісер (адсюль — прозвішча), г. зн. майстар па адліўцы шрыфтоў. Сям'я Нахіма Гісера прыехала ў Гродна 22 лютага 1785 года. На жаль, пакуль невядомая дакладная дата нараджэння Зымеля Нахімовіча. Як сведчаць дакументы, яшчэ ў 80-я гады XVIII стагоддзя ён быў вучнем у бацькоўскай майстэрні па адліўцы літар і менавіта там атрымаў першыя ўрокі друкарскага майстэрства.

Пасля далучэння заходніх земляў Беларусі да Расійскай імперыі Гродзенская друкарня часова перапыніла сваю дзейнасць. Гэта было зроблена ў сувязі з загадам Кацярыны II ад 30 кастрычніка 1794 года аб закрыцці і перавозе ў Вільню ўсіх друкарняў, што працавалі на захадзе Беларусі.

Першыя гады царавання Аляксандра I, пазначаныя ліберальнымі пачынаннямі, адкрылі магчымасць для аднаўлення друкавання ў Гродне. Аднавіў справу бацькі і Зымель Нахімовіч. Пэўна, яшчэ ў самым пачатку стагоддзя ён пачаў адліваць шрыфты, а ў 1808 годзе адкрыў друкарню. Па іншых звестках, друкарня Нахімовіча пачала працаваць яшчэ ў 1803 годзе. Словалітня Зымеля Нахімовіча ў хуткім часе стала найлепшай не толькі на тэрыторыі Беларусі. Слава аб майстэрстве гродзенскага гісера дайшла да Варшавы, Украіны. Нахімовіч адліваў і выразаў друкарскія літары для старэйшай на Беларусі газеты "Курьер Літоўскі", для друкарні віленскіх ксяндзоў-місіянераў, дзяржаўнай друкарні Царства Польскага, друкарні кармелітаў у Бярдзічаве і многіх іншых. Работу Зымеля Нахімовіча як майстра адліўкі літар неаднаразова адзначаў выдатны выдавец і бібліятэкар, кіраўнік друкарні і бібліятэкі Віленскага універсітэта Восіп Завадскі. "Пан Зымель Нахімовіч, — пісаў Завадскі ў 1816 годзе, — не толькі аказаў паслугу друкарні універсітэцкай, але паказаў сябе як надзвычайны майстар у адліўцы друкарскіх літар настолькі, што адлітыя для універсітэцкай друкарні шрыфты і другія прыналежнасці нічым не саступаюць замежным".

Друкарня, адкрытая Зымелем Нахімовічам у Гродне, аказалася эканамічна выгадным прадпрыемствам. Да 1820 года яна не мела ў Гродзенскай губерні канкурэнтаў. Нахімовіч, такім чынам, мог друкаваць не толькі па заказах прыватных асоб, але таксама выконваць і дзяржаўныя работы. Ужо праз некалькі гадоў пасля адкрыцця друкарні Нахімовіч здолеў пашырыць аб'ём вытворчасці, закупіў частку друкарскага рыштунку ў старшыні Гродзенскага гарадавога магістрата Урублеўскага. У гэты час у Гродне друкаваліся, галоўным чынам, польскамоўныя кнігі, але выходзілі таксама выданні на лацыні, нямецкай мове.

Значную частку друкаванай прадукцыі складалі адвакацкія прамовы і іншыя судовыя матэрыялы, афіцыйныя дакументы. Друкаваліся панегірыкі ў адрас пануючых асоб, чыноўнікаў, мясцовых магнатаў. Сустракаліся таксама перакладныя творы і арыгінальныя сачыненні. Сярод апошніх — "Вершы" Шукевіча, драматычныя творы Тамашэўскага, "Кароткі нарыс пачатковай гісторыі літоўскага народа" Т. Нарбута, "Курс маральнасці" Багушэўскага і іншыя. На працягу некалькіх гадоў друкарня Зымеля Нахімовіча друкавала перыядычны "Каляндар Віленскага універсітэта" і некаторыя іншыя падобныя выданні.

У хуткім часе гродзенская выдавецкая фірма ператварылася ў буйное прадпрыемства: Нахімовіч адкрыў філіялы ў Бярдзічаве, Вільні, заснаваў яўрэйскую друкарню ў Езерах. Апошняя працавала больш двух дзесяцігоддзяў. Узначальваў гэтую друкарню сын Зымеля Нахімовіча Мойша. Найбольш значным выданнем езерскай друкарні быў Талмуд на іўрыце, друкаванне якога пачалося ў пачатку 30-х гадоў. Нахімовічы паспелі выдаць у Езерах толькі тры тамы Талмуда. У 1835 годзе друкарня вымушана была перапыніць сваю дзейнасць. У гэты час царскія ўлады, заклапочаныя пераўладкаваннем жыцця яўрэяў у Расійскай імперыі (прыгадаем, што ў 1835 годзе выйшла новае заканадаўства ў гэтай справе), звярнулі ўвагу на дзейнасць яўрэйскіх друкарняў і наогул распаўсюджанне літаратуры на іўрыце. Цэнзураваць гэтую літаратуру было цяжка, паколькі царскія цэнзары, як правіла, не валодалі старажытнаяўрэйскай мовай. Цэнзары яўрэйскіх выданняў працавалі толькі ў Вільні, Кіеве і Варшаве, а літаратуры на іўрыце было так многа, што гэтыя тры чалавекі не давалі рады нават прагледзець спісы прывозімых кніг. Толькі адна гандлёвая фірма Сендэра Шлемавіча і Еселя Генасовіча з Валыні прывозіла на Беларусь больш як на 200 чырвонцаў кніг штогод. Таму менавіта 13 і 27 кастрычніка 1836 года выйшлі царскія ўказы, якія рэгламентавалі работу яўрэйскіх друкарняў. Загадана было ўсе кнігі, выдадзеныя без цэнзуры, на працягу года прадаставіць на разгляд мясцовага начальства, а друкаванне кніг у далейшым дазволіць толькі ў Вільні і Кіеве, дзе ёсць адпаведныя цэнзары. Такім чынам, друкаванне пятнаццацітомнага Талмуда ў Езерах спынілася на трэцім томе, а чацвёрты выйшаў ужо ў віленскім філіяле выдавецкай фірмы Нахімовічаў.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## СЦЕЖКАМІ ЦЁТКІ (Алаізы ПАШКЕВІЧ)






(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Імя Цёткі — з беларусамі з малых гадоў. Я памятаю першае свята, прысвечанае Цётцы, праведзенае ў маі 1953 года. Гэта быў мнагалюдны фестываль у вёсцы Стары Двор, дзе ля старога гасцінца пахавана пісьменніца, якую мясцовыя людзі называлі Ліза, Лізанька, Пашкевічанка.

На сустрэчу з Цёткай тады сабралася больш за тысячу чалавек. Вельмі шмат было сялян з навакольных вёсак, настаўнікаў. Адны ехалі на фурманках, іншыя дабіраліся ў Стары Двор пешшу. Бабулі ішлі з унукамі. Вясковыя маладзіцы былі апрануты ў самаробныя блузкі-вышыванкі і прыгожыя спадніцы. А колькі было кветак!

Мнагалюдны сход замоўк, калі слова ўзяў Аляксандр Кіркевіч. Ён расказаў аб жыцці, літаратурнай і рэвалюцыйна-дэмакратычнай дзейнасці славутай зямлячкі. З успамінамі пра Цётку выступіла яе стрыечная сястра Шмігіра. Паэт Пятрусь Макаль прачытаў верш, які прысвяціў Алаізе Сцяпанаўне. А потым гучалі вершы паэткі ў выкананні вучняў Шастакоўскай школы.

У Астрыне ёсць школа, што носіць імя Цёткі, а ў школе стараннямі настаўніцы Галіны Пугач і яе добрых памочнікаў адкрыты музей паэткі.

Часта ў памяці ўсплываюць мае паездкі ў Стары Двор, Бакшты, Шастакоўцы разам з пісьменніцамі Валянцінай Коўтун і Хрысцінай Лялько, калі Валянціна Міхайлаўна збірала матэрыялы для сваёй кнігі "Крыж міласэрнасці". Былі незабыўныя сустрэчы з людзьмі шаноўнага ўзросту, якія памяталі Цётку, бацькоў яе. Дзед Макарэвіч з Бакштаў расказваў пра тое, як Алаіза Сцяпанаўна любіла спяваць з вясковымі кабетамі беларускія і польскія народныя песні, як успамінала цудоўныя казкі бабы Югасі. Стары чалавек добрым словам згадваў бацьку паэткі Сцяпана Пашкевіча.

Сёлета ў Беларусі шырока было адзначана 120-годдзе з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Фотакарэспандэнт Віктар СТАВЕР пабываў у яе родных мясцінах і зрабіў здымкі ў школе ў Астрыне, якая носіць імя Цёткі і дзе створаны яе музей.

А. ЖАЛКОЎСКІ.





## ГРОДЗЕНСКІ ДРУКАР ЗЫМЕЛЬ НАХІМОВІЧ

(Заканчэнне.
Пачатак на 7-й стар.).

З поспехам пачатая справа гродзенскага прадпрымальніка Зымеля Нахімовіча, на жаль, з цягам часу ўсё больш прыходзіла ў заняпад. Найбольш паўплывала на гэта дзейнасць канкурэнтаў, а таксама палітыка царскіх чыноўнікаў. У Гродне найбольшую канкурэнцыю выдавецкай фірме Нахімовіча склала губернская друкарня, адкрытая ў 1820 годзе. Дарэчы, Нахімовіч сваімі рукамі рыхтаваў і прыспешваў упадак сваёй фірмы, адліваючы высакаякасныя шрыфты для канкурэнтаў ва ўласнай словалітні. У Вільні ў 20—30-я гады пачалі дзейнічаць некалькі прыватных друкарняў, у тым ліку моцная фірма Завадскага, які ў той час ужо пакінуў Віленскі універсітэт і здолеў паставіць сваё прадпрыемства на шырокую нагу, адкрыўшы некалькі філіялаў, у тым ліку і на Украіне. Канкурыраваць з Завадскім Нахімовічу было цяжка. Не спрыяла развіццю друкарскай справы русіфікатарская палітыка ўладаў. Звужэнне сферы выкарыстання польскай мовы, на якой, галоўным чынам, друкаваў Нахімовіч, скарачала і колькасць заказаў. Жорсткімі сталі цэнзурныя правілы, узмацніўся нагляд паліцыі за дзейнасцю друкарняў.

На жаль, сёння пакуль што невядомы дакладны лёс Зымеля Нахімовіча і яго двух сыноў, якія працавалі ў выдавецкай фірме. Хутчэй за ўсё, у канцы 50-х гадоў яны вымушаны былі прадаць частку друкарскага абсталявання. У другой палове стагоддзя ў гродзенскіх дакументах толькі час ад часу сустракаецца імя Хацкеля Земеліовіча, сына Зымеля, які ўжо не змог паставіць выдавецкую справу ў Гродне на шырокую нагу. Частка друкарскага рыштунку была перавезена сынамі Зымеля Нахімовіча ў Вільню.

Лёс Зымеля Нахімовіча, найбуйнейшага друкара і гісера Беларусі на працягу паўстагоддзя, з'яўляецца ўвасабленнем лёсу многіх яўрэйскіх прадпрымальнікаў і культурных дзеячаў першай паловы XIX стагоддзя. Неспрыяльныя ўмовы для камерцыйнай дзейнасці, выкліканыя перш за ўсё палітыкай улад, прыводзілі да заняпаду многія выдатныя пачынанні. Адначасова дзейнасць Зымеля Нахімовіча, які, дарэчы, атрымаў ад удзячных гарадзенцаў званне ганаровага грамадзяніна, увасабляе тую ролю, якую адыгрывалі ў культурным і грамадскім жыцці Беларусі многія прадстаўнікі яўрэйскага народа.

Святлана
КУЛЬ-СЯЛЬВЕРСТАВА,
кандыдат
гістарычных навук.

**З ЛІДЧЫНЫ**

## «ЦЕНІ», ЯКІЯ АСВЯТЛЯЮЦЬ...

Ліда перадваенная і часоў Вялікай Айчыннай вайны. Па-рознаму асвятлялася гэтая тэма ў газетных публікацыях і кнігах тых ці іншых аўтараў. Айчынныя даследчыкі, відаць, залішне ідэалізавалі савецкае падполле і партызанскі рух, польскія — канспіратыўную дзейнасць у Заходняй Беларусі сваіх падпольных структур і асабліва Арміі Краёвай. На гэтым фоне выдзяляецца нядаўна выдадзеная ў Лідзе кніга "В тени замка Гедимина" Яўгеніі Ярмант (Ярмантовіч).

Згаданы твор, па сцвярджэнню аўтаркі, уяўляе сабою ўспаміны ўскладненага і канфліктаванага вайною дзяцінства. Шчыра і проста, часта з болем расказвае былая лідчанка, а зараз жыхарка Беластока пра той поўны драматызму час. Адны з юнакоў апынуліся ў паліцыі, іншыя — у партызанах. Называюцца ахвяры акупацыі. Ды спадарыня Ярмантовіч найбольш расказвае пра людзей без зброі, простых гараджанаў. Пра беларусаў, палякаў, яўрэяў... Пра іх дабрыню і спагаду да іншых, сціпласць і бескарыслівасць. Уражваюць радкі і пра людскія заганы: зайздрасць і подласць, злосць і маральны садызм. Гэтая нялюдскасць, убачаная вачамі дзяўчынкі, і сёння хвалюе пані Яўгенію. Асуджаючы пачварнасць войнаў, яна звяртаецца да чытача з такімі пытаннямі: Чаму людзі наладжваюць самі сабе катаклізмы, якія нясуць ім боль і пакуты? Чаму яны забіваюць адзін аднаго? Хіба годны чалавек, які забівае да сябе падобных?

Здзіўляешся, як многа можна расказаць на 170 старонках кнігі. Пра сябе і сваякоў, суседзяў і таварышаў- падлеткаў, лёс тутэйшых людзей і прыгажосць роднага горада. Нездарма гродзенскі навуковец Алесь Краўцэвіч назваў кнігу Я. Ярмантовіч падарункам для гісторыкаў.

Алесь ЖАЛКОЎСКІ.

## ЗНАЎЦА БЕЛАРУСІ Ў ІТАЛІІ

Споўнілася 70 гадоў італьянскаму паэту Альда Севярыні, які двойчы наведваў Беларусь, праяўляе вялікую цікавасць да беларускай літаратуры. А. Севярыні пераклаў на італьянскую мову асобныя творы Я. Купалы, М. Танка, Р. Барадуліна, М. Калачынскага... У сваю чаргу, яго творчасць добра вядомая чытачам нашай краіны. Дзякуючы М. Танку, Р. Барадуліну, Я. Семяжону, А. Шаўню, асобныя творы А. Севярыні на беларускай мове змяшчаліся ў перыёдыцы, прадстаўлены ў анталогіі сучаснай італьянскай паэзіі "Ад вежаў Ферары" (1974), увайшлі ў зборнік сучаснай італьянскай навелы "Золата Фарчэлы" (1968). Пабачыла свет і кніга А. Севярыні "На арбіце зямлі" (1980).

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1342.
Падпісана да друку 9.12.1996 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.